
Узнагароды «Quercus» → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


На старонках «Самасея» → 8-9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 05 (3221) Год LXIII | Беласток, 04 лютага 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Гайнаўскі і Бельскі белліцэі сярод лепшых ліцэяў у Польшчы

Аляксей МАРОЗ

Часопіс «Перспектывы» і яго адукацыйны фонд 10 студзеня апублікавалі рэйтынг лепшых у Польшчы ліцэяў і тэхнікумаў, якія ацэньваліся па выніках вучняў на матуральных экзаменах і за поспехі на алімпіядах. Нашы Гайнаўскі і Бельскі белліцэі занялі ў рэйтынгу першыя месцы ў сваіх паветах і ў іх атрымаліся вельмі добрыя вынікі ў маштабе Падляшскага ваяводства і ўсёй краіны. Вынікі рэйтынгу з'яўляюцца важным стымулам для гімназістаў і вучняў пачатковых школ пры паступленні ў нашы белліцэі, якія, побач навучання роднай мове, культуры і нашым традыцыям, славяцца высокім узроўнем навучання. Гэта дае ліцэістам большыя магчымасці паспяхова справіцца з матуральнымі экзаменамі і паступіць у прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Бельскі і Гайнаўскі белліцэі ўжо здаўна захоўваюць высокі ўзровень навучання, іх вучні мнагакратна станавіліся лаўрэатамі і фіналістамі прадметных алімпіяд і добра спраўляюцца з матуральнымі экзаменамі, доказам чаму з'яўляюцца вынікі апошняга рэйтынгу часопіса «Перспектывы».


Пераможцы Алімпіяды па беларускай мове ў 2017 годзе. Злева — лаўрэатка Анна Бяляўская з Гайнаўскага белліцэя, справа — лаўрэатка Веранiка Кардзюкевіч з Бельскага белліцэя, а пасярэдзіне — фіналісты

Фота Аляксея Мароза

На новым сайце Комплексу школ з дадатковы навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы адзначана, што Гайнаўскі белліцэй у Агульнапольскім рэйтынгу агульнаадукацыйных ліцэяў заняў 273 месца ў Польшчы, 9 месца ў Падляшскім ваяводстве і ўпершыню ўдалося яму здабыць званне «Сярэбранай школы — 2018». У сёлетнім Агульнапольскім алімпійскім рэйтынгу Гайнаўскі белліцэй заняў прэстыжнае 20 месца ў Польшчы.

— У прэстыжным саставе, найбольш прэстыжнага рэйтынгу звышгімназічных школ у Польшчы, знаходзяцца самыя лепшыя ліцэі, выпускнікі якіх здабываюць самыя лепшыя вынікі на матуральных экзаменах, прымаюць удзел у алімпіядах і конкурсах. Капітул з прадстаўнікоў вышэйшых навучальных установ, дырэктараў акруговых экзаменацыйных камісій і старшынь галоўных камітэтаў алімпіяд падчас складання рэйтынгу бралі пад увагу вынікі матуральных экзаменаў і поспехі школ у прадметных алімпіядах. Галоўнымі адрасатамі рэйтынгу з'яўляюцца вучні найстарэйшых класаў гімназій, якія хутка будуць рашаць аб выбары звышгімназічнай школы, — напісана на новым сайце белліцэя і белгімназіі ў Гайнаўцы.

— Наша школа заняла высокае месца ў Агульнапольскім рэйтынгу агульнаадукацыйных ліцэяў перш за ўсё дзякуючы вялікай працы і салідкай падрыхтоўцы нашых ліцэістаў да матуральных экзаменаў і алімпіяд, а таксама вялікай рабоце настаўнікаў, якія рыхтуюць моладзь да экзаменаў і алімпіяд. Цешыць мяне, што абодва нашы белліцэі занялі высокія месцы ў рэйтынгу як у маштабе нашага ваяводства, так і ўсёй краіны. Гэта прэстыж для нашых ліцэяў і стымул для вучняў гімназій паступаць на вучобу ў нашы белліцэі, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук. — Будзем намагацца, каб адукацыя і разгортванне талентаў нашых вучняў адбывалася пастаянна на высокім узроўні.

Анна Бяляўская з Гайнаўскага белліцэя стала лаўрэаткай Алімпіяды па беларускай мове ў 2017 годзе. Да алімпіяды рыхтавала яе настаўніца беларускай мовы Анна Каліноўская. Вучаніца сказала, што беларуская мова важная для яе, ахвотна вучыцца роднай мове на ўроках, спявае па-беларуску пад гітару, у калектыве Студыі песні ГДК і выступае ў тэатральным калектыве Іаанны Стэльмашук-Троц. Фіналістамі Алімпіяды па беларускай мове сталі іншыя вучні Гайнаўскага белліцэя — Барташ Васілюк, Паўліна Анішчук, Эмілія Масальская, Радаслаў Саковіч, Агата Бярэзняк, Дамініка Пуц, Юлія Бяганская, Лукаш Ляўчук, Гражына Фірс і Беата Красько. Настаўнікі беларускай мовы з Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў ужо з верасня пачынаюць рыхтаваць вучняў да Алімпіяды па беларускай мове, якой цэнтральныя элімінацыі адбываюцца ў сакавіку наступнага года. Інтэнсіўная падрыхтоўка адбываецца таксама да іншых прадметных алімпіяд. Наталля Васько з Гайнаўскага белліцэя ў 2017 годзе стала лаўрэаткай Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў, а год раней была яна лаўрэаткай Алімпіяды па беларускай мове, калі рыхтаваў яе да алімпіяды настаўнік Ян Карчэўскі.

— У першым класе белліцэя я стала фіналісткай праваслаўнай алімпіяды, а ў другім класе ўдалося здабыць званне лаўрэата гэтай алімпіяды, да якой трэба было салідна рыхтавацца па тэме іканапісу, — заявіла Наталля Васько, якую да алімпіяды рыхтаваў настаўнік праваслаўнай рэлігіі протаіерэй Андрэй Буслоўскі. Яго іншая вучаніца Юлія Пракапюк стала фіналісткай згаданай алімпіяды. Іга Келбашэўская з Гайнаўкі ў мінулым школьным годзе атрымала званне фіналісткі Алімпіяды экалагічных ведаў. У Падляшскай алімпіядзе біялагічных ведаў у 2017 годзе лаўрэатам стала Марыянна Цівун, а званне фіналістаў атрымалі Аляксандр Астроверх, Рафал Леанюк, Габрыеля Кот і Іга Келбашэўская. Іх настаўніца біялогіі Аліна Пліс звярнула ўвагу на вялікую колькасць ведаў, якія павінны здабыць вучні, каб дабіцца поспехаў у Алімпіядзе экалагічных ведаў і Падляшскай алімпіядзе біялагічных ведаў.

На сайце Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім можна прачытаць, што школа атрымала «бронзавы шчыт», інакш кажучы званне «бронзавай школы», — знак самай вышэйшай якасці школы ў прэстыжным Агульнапольскім рэйтынгу звышгімназічных школ.

— Рэйтынг паказвае школы, якія даюць вучням не толькі веды і ўмеласці, але выхоўваюць іх і фарміруюць жыццёвую дарогу маладога чалавека. У рэйтынгу польскіх агульнаадукацыйных школ прэзентуецца 500 з ліку 2186 установ, — напісана на сайце Бельскага белліцэя. У рэйтынгу заняў ён 1 месца ў Бельскім павеце, 15 месца ў Падляшскім ваяводстве і 368 месца сярод 500 лепшых агульнаадукацыйных ліцэяў у Польшчы. У Агульнапольскім алімпійскім рэйтынгу Бельскі беліцэй апынуўся на 49 месцы.

— Я не задаволены вынікамі нашага белліцэя ў сёлетнім рэйтынгу часопіса «Перспектывы». Раней мы займалі лепшыя месцы і атрымлівалі званне «сярэбранай школы». Паводле поспехаў у прадметных алімпіядах наш ліцэй быў у рэйтынгу нават на 12 месцы ў Польшчы, — сказаў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк. — Найбольш балаў пры складанні рэйтынгу часопіса «Перспектывы» можна было здабыць за добрыя вынікі на матуральных экзаменах па дадатковых прадметах, бо ажно 45% ад усіх магчымых да здабыцця балаў. 25% балаў можна было здабыць за добрыя вынікі на матуральных экзаменах па абавязковых прадметах, а 30% балаў — за добрыя вынікі ў алімпіядах.

— Мы ў маштабе нашай школы павінны палепшыць перш за ўсё вынікі сёлетніх матуральных экзаменаў па дадатковых прадметах, бо яны патрэбныя таксама вучням, якія будуць паступаць на выбраныя імі спецыяльнасці ў вышэйшых навучальных установах. У мінулым школьным годзе ў нас былі поспехі па алімпіядах на цэнтральным узроўні. У Алімпіядзе па беларускай мове з нашага белліцэя да цэнтральнага этапу

працяг → 10





# Інфашум

Бываюць падзеі, значнасць якіх заўважная не адразу. Але яны мяняюць з часам свет і наша ўяўленне пра яго — або спачатку наша ўяўленне, а пасля свет. Не ў гэтым сутнасць. Ад перамены складаемых сума не мяняецца. І ўжо толькі пасля, як высвятляецца веліч і патрэбнасць зробленага, розныя фундацыі пачынаюць шукаць таго, хто гэта пачаў, каб аддаць яму належнае. Але зноў жа гэта не галоўнае, бо звычайна знаходзяць не тых. Важна, што сапраўднае перамагло фальшывае, ці — як у нашым выпадку — праўда перамагла хлусню.

Гэта я пра вельмі цікавую знаходку журналістаў RTVi, вартую ўвагі ўсіх іншых СМІ, якія дбаюць пра дасканаласць і праўдзівасць сваёй прадукцыі. На іх тэлеканале і сайце, як такое выратавальнае кола з інфармацыйнага віру, дзе разабрацца, што праўда, а што хлусня бывае не пад сілу нават спецыялістам, цэлая рубрыка з'явілася. Так і называецца — інфашум. У ёй аналізуюцца нашумеўшыя ў СМІ падзеі і заявы, значнасць якіх моцна перабольшваецца і разбіраюцца тыя „навіны", якія навінамі і не з'яўляюцца насамрэч, а толькі прыкідваюцца такімі. І каб надаць важнасць гэтай рубрыцы, адмыслова падкрэсліваецца, што паколькі такі аналіз сур'ёзная справа і адлюстроўвае погляд усёй рэдакцыі, то яе вядзе галоўны рэдактар RTVi Аляксей Півавараў.

Чаму хочацца звярнуць увагу на гэтую рубрыку не толькі тых фундатараў, якія шукаюць каго і за што ўзнагародзіць, але і ўсіх, хто падае інфармацыю. Часамі падаецца такая інфармацыя, якую хіба што не чытаў сам яе стваральнік нават тады, калі пісаў. А ўжо што ён не задумваўся як яна паўплывае на чытача, дык гэта дакладна. І гэта ў лепшым выпадку. Бывае горш, калі аўтар задумваецца.

А гэта ж СМІ! Я яшчэ дзіцянём убачыў іх татальны ўплыў на свядомасць грамадства, калі спрачаліся дзве суседкі ў маёй вёсцы. Адна нешта старалася даказаць, а другая гэта высмейвала як небыліцу і падман. І аніякія аргументы не маглі яе пераканаць, пакуль першая не заявіла, што гэта па „радзіве" казалі (так яна называла радыё). І не важна, што яна не ведала як правільна вымаўляецца назва інфармацыйнага перадатчыка, бо другая суседка адразу перастала спрачацца. Маўляў, раз казалі па „радзіве", то так яно і ёсць.

На шчасце з гадамі я даведаўся, што тое, што гаварыла нам тады савецкае радыё, было суцэльнай хлуснёй. І, дзякуй Богу, яго больш няма, таго „радзіва". Прапала яно, а вось хлусня засталася. І на радыё, і на тэлебачанні, і ў іншых варыянтах СМІ хлусня прысутнічае і квітнее, асабліва ў дзяржаўных і асабліва ў нас. Там, дзе ў асноўным ідзе не інфармацыя, а прапаганда і ў дадатак яшчэ не свая, а іншай дзяржавы. Зрэшты, і не толькі ў дзяржаўных! І як з гэтым змагацца, казаць што гэта няпраўда? Можна паспрабаваць. Гэта нават можа часам і спрацаваць. Але іншым разам для многіх спажыўцоў інфармацыі гэта будзе выглядаць як спрэчка тых дзвюх вясковых суседак. Ідзі, разбярыся, хто з іх маніць.

А маняць часамі не толькі, каб затуманіць народу мазгі, але бывае проста для таго, каб інфармацыйная прадукцыя была запатрабаванай спажыўцом. Нібыта і праўдзівы факт апісваюць, але загаловак прыдумаюць такі „прывабны", што мяняе сутнасць падзеі наадварот. Ідзе пагоня за наведвальнасцю, змаганне паміж СМІ за колькасцю банальных фактаў заходу на іх інтэрнэт-старонку. І гэтая колькасць стала галоўным індыкатарам паспяховасці СМІ. Не дакладнасць інфармацыі, хай сабе для нямногіх чытачоў, але для тых, хто сапраўды цікавіцца дадзенай тэматыкай, не важнасць нейкай інфармацыі, на пошук якой трэба згубіць гады, а колькасць наведвальнікаў. Хай сабе і тых, хто проста зайшоў паўзірацца на аголены азадак нейкай кіназоркі.

Вось і заманьваюць гэтых наведвальнікаў як у пастку хто чым можа. Хто перакручанымі загалоўкамі, хто голымі азадкамі, а іншыя і ўвогуле адмыслова прыдуманым для гэтага падманам. Таму сёння вельмі трэба з інфармацыйнага поля адсейваць інфашум. А з рубрыкі „інфашум" тэрмінова трэба рабіць асобны жанр.

У адваротным выпадку можа стацца так, што ў хуткім часе прыйдзецца ўжо ў татальным інфашуме шукаць хоць нейкае падабенства праўдзівай інфармацыі.

Віктар САЗОНАЎ

# Асцярожна з падкормкай птушак зімой!



Няправільнае кармленне птушак у зімовы час робіць ім больш шкоды, чым карысці, — пераконвалі вучоныя і студэнты падчас агульнапольскай канферэнцыі «ТУСУЙСЯ з прыродай у Беластоку». Адной з тэм канферэнцыі ў Інстытуце біялогіі Універсітэта ў Беластоку была лекцыя «Сланечнік, саланінка і Акцыя кармушка, інакш Падкормка і даследаванне зімуючых птушак». Каардынатар праекта Раман Салавянюк патлумачыў падчас лекцыі, што студэнты біялогіі з Беластока прымянялі дзеянні «лоўлі птушак» ля зімовых кармушак. З 2015 года яны надзелі кольцы больш за 2 тысячам птушак. Мэта заключалася ў тым, каб сабраць даныя аб колькасці зімуючых птушак, вывучыць уплыў умоў надвор'я і «прывязанасць птушак да кармушкі». Салавянюк сцвердзіў, што даследаванні паказвалі на няправільнае размяшчэнне сілкавальнікаў, якія не павінны быць размешчаны побач з акном. «У акне адлюстроўваецца прастора, у якой знаходзяцца птушкі і ім здаецца, што гэта канкурэнты, пагроза. Часта птушка не заўважае шкла і разбіваецца аб яго. Адзначыў, што корм для птушак у зімовы перыяд павінен быць натуральны і свежы, напрыклад, зерне сланечніку, гатовыя насенныя сумесі, вараная гародніна або збожжа. Падкрэсліў, што сала, якое мае шмат солі або свежы хлеб выклікаюць у птушак болі ў страўніку, у выніку птушкі слабнуць і хварэюць. Адзін з арганізатараў канферэнцыі Пётр Лапа з навуковага заалагічнага таварыства «Анімаліян» асцерагаў, што няправільная падкормка птушак зімой, вясной прынясе больш шкоды, чым карысці, таму што птушкі прывыклыя да вялікай колькасці ежы не будуць шукаць яе самастойна.

— Зімой мы фальшуем ім вобраз багацця навакольнага асяроддзя. Птушкі запамятваюць дадзеную тэрыторыю як багатую ў ежу і закладваюць тут зашмат гнёздаў. Эксперт рэкамендуе звярнуць увагу на ўмовы надвор'я і, калі няма снежнага покрыва або інею, абмежаваць падачу ежы, але не раптам.

Падкормліваць ці не — гэта пытанне. Падкормка птушак уключае ў сябе шмат адказнасці. Калі яна дрэнна арганізавана, можа нанесці птушкам больш шкоды, чым голад і холад. Антон Марчэўскі з Польскага таварыства аховы птушак мяркуе: «Калі дапамога складаецца ў забеспячэнні птушак у ежу, як мага бліжэй да іх натуральнай дыеты, з улікам патрабаванняў асобных відаў і адаптацыі да іх, такая аперацыя не павінна нашкодзіць, а ў выпадку некаторых відаў можа стаць рэальнай падтрымкай. Добрым прыкладам з'яўляецца верабей — мы ведаем, што выжыванне гэтага віду зімой цесна звязана з наяўнасцю ежы, з якой не заўсёды лёгка, асабліва пасля ўводу ў эксплуатацыю шчыльна закрытых мяшкоў для смецця (раней бытавыя адходы былі важнай часткай зімовага рацыёну вераб'ёў). Якія дзеянні могуць быць шкоднымі? Калі разглядаць падкормку як спосаб пазбавіцца ад рэшткаў ежы і папсаваных харчоў, такое кармленне не толькі непажаданае, але нават шкоднае. Акрамя таго, кіданне на газоны або тратуары грудаў папсаванага хлеба ці бульбы часцей прыводзіць да канфліктаў паміж прыхільнікамі і праціўнікамі кармлення, з якіх апошнія часта маюць цалкам рацыю. Падкормка ў большасці выпадкаў не будзе мець значнага ўплыву на памеры папуляцый асобных відаў. Птушкі не смецяцяцца і не можам разглядаць іх як спосаб утылізацыі бытавых адходаў. Цвіль з'яўляецца таксічнай для іх, як і для нас. Усё часцей вадаплаўныя птушкі, у тым ліку лебедзі, якія зімуюць на месцы замест у цёплых краінах, выбіраюць гарадскія вадаёмы. Птушкі губляюць інстынкт міграваць у асноўным дзякуючы падкормцы іх людзьмі. Кармленне лебедзяў восенню, калі павінна мець месца іх міграцыя, з'яўляецца вялікай памылкай — яны прывыкаюць да аказванай людзьмі дапамогі і калі яна скончаецца (у маразы і людзі менш гатовыя пайсці на шпацыр у парк) птушкі не маюць сілы рухацца і самі здабываць натуральную дыету. Такім чынам, кармленне вадаплаўных птушак павінна быць абмежаванае перыядам моцных маразоў.

Міра ЛУКША



## Сваімі вачыма

# Простыя словы — вечныя словы

Апошнія два фельетоны прысвяціў я цікаму зыходу маёй вясковай краіны шчаслівасці ў абдымкі вечнасці. Дарогі назад няма. Шлях і вектар існавання вызначаны ўжо толькі ў аднабокім парадку. Таму менавіта з такой інтэнсіўнасцю і нават дэпрэсіўнасцю засяроджваю свае думкі і ўспаміны пра вобразы і словы людзей з маёй роднай прасторы. А яны выліваюцца і ўзгадваюцца неспадзявана проста ў любую пару дня і ночы. А словы таксама яшчэ і пахнуць... Пахнуць спеласцю думак, гармоніяй царкоўнага кадзіла і паленых свечак, позіркамі аднавяскоўцаў і іхнімі мудрагелістымі або фальшывымі паводзінамі. Пахнуць каханнямі і трагедыямі чалавеча-прыроднага космасу. Пахнуць урэшце сонцам, ветрам, зямлёю, небам, месяцам і зорамі. Усе яны патрэбныя, важныя і бязмежныя. Усе яны, выказаныя на вясковай лавачцы ці ў час святочнага застолля, надалей памятаюцца. Простыя словы, выказаныя разумнымі людзьмі, становяцца вечнымі. З'яўляюцца яны вечным помнікам нашай прысутнасці, але і прамінання. Простыя словы майго пушчанскага кутка — гэта добрыя словы чалавецтва, гуманнасці і неспадзяванага кругавароту лёсу. Простыя словы гэта адзін з фундаментаў кожнай добрай літаратуры ці журналістыкі. Тут першынство выбудоўвае сабе паэзія, якая можа ў некалькіх радках і фразах раскрыць таямніцы касмічнага маштабу, не гаворачы пра далікатнасць, але і набрынялую эмоцый з двухполюснага дабра і зла. Гэта паэзія простых слоў у спалучэнні з музыкай ці мастацкімі вобразамі разбудоўвае ў нас патрэбу да эстэтычных пошукаў, але перш за ўсё адчування патрэбы дабра ў нас саміх і другіх людзей. Гэта словы малітвы, просьбы, песні абараняюць нашы пачуцці і душы. Атрымліваем іх, бо хочам мець словы надзеі. Такімі ж некалькімі радкамі нашу ўдзячнасць пераносім на ахвяравальныя драўляныя ці каменныя крыжы, што зберагалі людзей і народы ад голаду, памору, агню, вады, войнаў на працягу ўсіх стагоддзяў.

Распісаўся я ў меланхалічна-прамінальныя настроі невыпадкова. Вестка з Мінска пра смерць Міхала Анемпадыстава, аднаго з найвялікшых талентаў ва ўсёй беларускай культурнай прасторы, ускалыхнула таксама многія сэрцы і душы беларусаў Падляшша. Існаванне фестывалю «Бардаўская восень» у яго эстэтычна-выяўленчым характары звязанае менавіта з імем і прозвішчам, на жаль, ужо святой памяці новапрадстаўленага Міхала. Ягоныя плакаты штогадовага фестывалю для мяне асабіста былі вышынёй мастацка-графічнай вытанчанасці свята слова і музыкі. Тут менавіта вобраз плакатаў Міхала Анемпадыстава ўзвышаў яшчэ тыя важныя простыя словы. З году ў год выступаў ён з новымі думкамі і прапановамі, што займалі дыханне ад пабачанага. Ад некаторых выпускаў фестывалю ў маёй памяці засталіся менавіта толькі ягоныя мастацкія плакаты, а не выканаўцы, якія не прыцягнулі да сябе нічым новым у сваіх музычна-паэтычных праектах. А яму, яшчэ як старшыні журы, трэба было з уласцівай сабе далікатнасцю і інтэлігентнасцю прымаць рашэнні наконт пераможцаў і прайграных. Гэта вялікая адказнасць браць на свае плечы лёс за будучае мастацкіх выбараў маладых людзей. Тут, здаецца, спрацоўвала самае галоўнае — умеласць услухоўвацца ў аўтэнтычнасць выступу і разумення прэзентаваных слоў і музыкі. Таму можам і гаварыць, што дзякуючы працам усяго журы пад кіраўніцтвам Міхала Анемпадыстава некалькі асоб атрымала шанц увайсці ў свет беларускай музыкі, якім пакарысталася.

Рэч для нас, беларусаў Беласточчыны самая важна — Міхал на добрае і благое пасябраваў з намі. Еўрапейска-мінскі інтэлектуал адчуваў тут сябе добра і, не павучаючы, стараўся зразумець нашу сітуацыю. А мы былі, ёсць і заўсёды будзем зачараваны ягоным «Народным альбомам», простымі словамі пра кавалак беларускага лёсу, які выпаў на долю пакалення маіх бацькоў і дзядоў. Гэта быў наш свет, пра які мы ведалі з сямейных расказаў, але не мелі яго расказанага з геніяльнай прастатой у паэтычна-музычнай форме. А тут атрымалі мы такі шчыт і меч — простыя, вечныя словы для нас і наступных беларускіх пакаленняў. Дзякуем за ўсё гэтае. Вечная Табе памяць, дарагі Міхал!

Яўген ВАПА

# Чацвёрты раз уручылі ўзнагароду «Quercus»

**Протаіерэй Леанід Шэшка** (пасмяротна), настаяцель праваслаўнага прыхода Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы, **ксёндз канонік Юзаф Паскробка**, пробашч каталіцкай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Гайнаўцы, **Рыгор Тамашук**, дырэктар Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы і доктар **Тамаш Самойлік**, навуковы супрацоўнік Інстытута даследавання млекакормячых Польскай акадэміі навук у Белавежы, рысавальшчык, творца коміксаў, аўтар кніжак для дзетак пра зубра Помпіка і іншую лясную жывёлу сталі лаўрэатамі ганаровай узнагароды бургамістра горада Гайнаўкі «Quercus 2018».



Статуя «Quercus 2018» была ўручана матушцы Марыі Шэшка


Статую «Quercus 2018» атрымаў доктар Тамаш Самойлік

Статуэткі «Quercus 2018» і кветкі ўручалі 26 студзеня ў Гайнаўскім доме культуры бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і старшыня Рады горада Гайнаўкі Якуб Астапчук. Сярод публікі прысутны былі запрошаныя праваслаўныя і каталіцкія святары, на чале з драгічынскім епіскапам ксяндзом прафесарам Тадэвушам Пікусам і благачынным гайнаўскай акругі мітрафорным протаіерэем Міхаілам Негярэвічам, які статую «Quercus» атрымаў у мінулым годзе. Прыбылі на ўрачыстасць гарадскія, павятовыя і ваяводскія радныя Гайнаўшчыны, самаўрадаўцы з пушчанскага рэгіёна са старастам Гайнаўскага павета Мірославам Раманюком, дырэктары школ і старшыні самаўрадавых суполак, каменданты мясцовых дзяржаўных мундзірных службаў, прадпрымальнікі Гайнаўшчыны. Сустрэча пачалася з выступу калектыву Студыі эстраднай песні Гайнаўскага дома культуры, дзяўчаты якой пасля займальна спявалі песні для паасобных узнагароджаных асоб. Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак зачытваў прозвішчы ўзнагароджаных асоб і інфармаваў, за якія заслугі прысвоіў лаўрэатам узнагароду «Quercus 2018». Сустрэчу вёў Дар'юш Шада-Бажышкоўскі, а статуэткі ўручаліся пад гукі духавога аркестра Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы, перад чым адбывалася кароткая фільмавая прэзэнтацыя дзейнасці ўзнагароджаных асоб. Статуэткі «Quercus» запраектаваў гайнаўскі мастак Яраслаў Пэршка, які не змог прыбыць на гайнаўскае мерапрыемства, таму што за мяжой адкрываў выставу сваіх прац. Quercus — лацінская назва дуба, выява якога змешчана на статуэтцы ўзнагароды. Побач зубра дуб стаў сімвалам Белавежскай пушчы і пушчанскага горада Гайнаўкі. Магутныя старыя дубы растуць у Гайнаўцы паміж Свята-Троіцкім саборам і ГДК, каля Дома настаўніка, гайнаўскага філіяла Політэхнічнага інстытута ў Беластоку і ў іншых месцах горада.

Хвілінай цішыні сабраныя ўшанавалі памяць пакойнага протаіерэя Леаніда Шэшкі, а статуэтка «Quercus 2018» была ўручана матушцы Марыі Шэшка.

— Айцец Леанід Шэшка заслужыўся для Гайнаўкі як выдатны святар, які ангажаваўся таксама ў справы Белавежскай пушчы і ўраўнаважанага развіцця пушчанскага рэгіёна, — заявіў бургамістр Ежы Сірак. Адзначыў ён, што айцец Леанід займаўся аховай звярыны ў Белавежскай пушчы, падкормліваў яе за свае сродкі. У фільмавай прэзэнтацыі айцец Леанід прадстаўлены быў як святар, які служыў Богу і людзям, збудаваў царкву ў сваім прыходзе, арганізаваў паломніцтвы ў святыя месцы ў краінах Еўропы.

— Я рада, што муж, айцец Леанід, атрымаў пасмяротна ўзнагароду «Quercus 2018». Гэта сведчыць, што яго работа ацэнена ў Гайнаўцы, але таксама і па-за нашым горадам. У мінулым годзе айцец Леанід быў узнагароджаны «Кардэлясам польскага лесніка», а гэтую ўзнагароду ўручаў мне генеральны дырэктар Дзяржаўных лясоў Конрад Тамашэўскі. У 2016 годзе міністр асяроддзя прафесар Ян Шышка ўручыў мне прызначаную таксама пасмяротна айцу Леаніду «Ганаровую адзнаку за заслугі для аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі», — сказала матушка Марыя Шэшка.

Бургамістр Ежы Сірак паінфармаваў, што ксёндз канонік Юзаф Паскробка, пробашч каталіцкай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Гайнаўцы атрымаў узнагароду «Quercus 2018» за душпастырскую і грамадскую дзейнасць у карысць жыхароў Гайнаўкі, за шматлікія ініцыятывы, перш за ўсё за арганізаванне «Сямейнага пікніка» ў гарадскім амфітэатры. Рашэнне гайнаўскага бургамістра пахваліў драгічынскі епіскап Тадэвуш Пікус, які вельмі цёпла выказваўся пра ксяндза Паскробку, які родам з Нарвы.

— Усё, што рабіў, буду рабіць надалей, а гэтая ўзнагарода будзе яшчэ большым стымулам для працы ў карысць жыхароў горада, — сказаў ксёндз Юзаф Паскробка.

За менеджарскія якасці ў сваёй дзейнасці ўзнагароду атрымаў Рыгор Тамашук, дырэктар Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы. Не змог ён прыбыць на ўрачыстае спатканне з-за сямейнага мерапрыемства па-за Гайнаўкай. Узнагароду «Quercus» узяла для свайго дырэктара яго намесніца Яўгенія Альшэўская. Бургамістр адзначыў, што ўзнагарода прызначаецца дырэктару Рыгору Тамашуку, які родам са Старога Корніна, за вельмі ўдалае кіраванне дзейнасцю гайнаўскага шпіталя і цэлага Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя ў Гайнаўцы. Дырэктар Тамашук патрапіў прыцягнуць многа вонкавых, перш за ўсё еўрасаюзных сродкаў і з умелым выкарыстаннем уласных сродкаў мадэрнізаваць амаль усе аддзяленні гайнаўскай бальніцы. Шпітальныя інвестыцыі ўспамагаюцца таксама бюджэтнымі сродкамі горада, гмін і стараства, якое з'яўляецца ўласнікам Самастойнага публічнага комплексу аховы здароўя. Шпіталь імя Уладзіміра Манцюка, які ўваходзіць у састаў СПКАЗ, заняў другое месца ў Падляшскім ваяводстве ў агульнапольскім рэйтынгу «Бяспечны шпіталь» і высокае месца ў Польшчы. Шпіталь у Гайнаўцы захоўвае таксама акрэдытацыйны сертыфікат якасці Міністэрства здароўя для шпітальнага лячэння. Лекар кардыёлаг Малгажата Бараніч, каардынатар пададдзялення кардыялагічнай рэабілітацыі ў гайнаўскім шпіталі заняла першае месца ў катэгорыі «кардыёлаг» у конкурсе «Гіпакратас-2017» і гэтым самым воляй галасуючых была выбрана найлепшым кардыёлагам Падляшскага ваяводства. У канцы лістапада мінулага года гайнаўская бальніца атрымала сертыфікат «Шпіталь без болю».

— Сертыфікат «Шпіталь без болю» гэта важны сігнал для пацыента, што меншанне пасляаперацыйнага болю арганізуецца ў нас на самым высокім узроўні, што перакладаецца на павышэнне задавальнення падчас лячэння, — інфармуе дырэктар Рыгор Тамашук на сайце гайнаўскай бальніцы.

Узнагароду «Quercus» атрымаў таксама доктар Тамаш Самойлік, навуковы супрацоўнік Інстытута даследавання млекакормячых Польскай акадэміі навук у Белавежы, аўтар доктарскай працы «Антрапагенныя перамены асяроддзя Белавежскай пушчы да канца XVIII стагоддзя». Вядомы ён як рысавальшчык, творца коміксаў, аўтар кніжак для дзетак пра зубра Помпіка і іншых лясных жывёл. Тамаш Самойлік — перш за ўсё аўтар прац па гісторыі Белавежскай пушчы, якую даследуе на падставе археалагічных знаходак.

— Я нарадзіўся і выхаваўся ў Гайнаўцы. Дзякуючы просьбе бацькоў рашыўся вярнуцца на пастаяннае жыхарства ў Гайнаўку і зараз рады, што прыняў такое рашэнне. Мне вельмі падабаецца Белавежская пушча, якой я прысвячаю многа часу. Я даследую яе гісторыю, якая паказвае, што на цэлай яе тэрыторыі ў мінулым жылі людзі, аб чым сведчаць курганы, месцы пахавання людзей, вынікі археалагічных раскопак на тэрыторыі пушчы. Такіх пацвярджэнняў таксама многа ў строгім запаведніку. Пазней польскія каралі і расійскія цары забаранілі высякаць пушчу і на іншы спосаб яе выкарыстоўваць. Белавежская пушча стала натуральным лесам, які разрастаўся ў натуральны спосаб, — гаварыў доктар Тамаш Самойлік.

Доктар Самойлік спатыкаецца з гайнаўскімі дзеткамі і распавядае пра зубра Помпіка і іншых сваіх анімацыйных герояў. Расказвае таксама пра мінулае Белавежскай пушчы. Напрыклад, на спатканні са слухачамі Універсітэта трэцяга веку расказваў пра курганы і матэрыяльныя знаходкі ў Белавежскай пушчы, якія сведчаць пра пражыванне на яе тэрыторыі людзей у сярэднявеччы і ранейшых перыядах. Мая дачка пабывала на сустрэчы з Тамашам Самойлікам у Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы, на якой расказваў пра зубра Помпіка, коміксы, кніжкі для дзетак і была рада гэтаму спатканню, паколькі яшчэ разам з сынам і дачкой Тамаша Самойліка спявае ў дзіцячым хоры Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы.

— Я ўспрымаю статуэтку «Quercus» як прызнанне маёй працы ў карысць мясцовага насельніцтва, — сказаў Тамаш Самойлік.

Бургамістр Ежы Сірак адзначыў, што творчасць спадара Самойліка ўдала прамуе Гайнаўку, а зубр Помпік стаў ужо распазнавальным персанажам у нашай краіне. Даследаванні доктара Самойліка па гісторыі Белавежскай пушчы робяць яе больш цікавай для мясцовых людзей і турыстаў.

Сустрэча з лаўрэатамі ганаровай узнагароды бургамістра горада Гайнаўкі «Quercus 2018» закончылася выступам дзяўчат са Студыі песні ГДК, якіх дзейнасцю кіруе Марта Грэдаль-Іванюк, і пачастункам, падчас якога сабраныя віншавалі ўзнагароджаных.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Незвычайны дзённік з беластоцкага гета

Дзённік часоў Другой сусветнай вайны трапіў у Галерэю Слендзінскіх у Беластоку. Гэта занатоўкі беластоцкага габрэя Давіда Шпіры. Нататкі вяліся з 1939 года па 1943 год.

Дзённік гэта каля сямідзесяці старонак успамінаў яўрэя Давіда Шпіра, які паходзіў з сям'і беластоцкіх фабрыкантаў. Свае ўспаміны аўтар пісаў рэгулярна. Першыя з'явіліся ў снежні 1939 года, апошнія паходзяць з ліпеня 1943 года, перад самым пачаткам паўстання ў беластоцкім гета. Фрагменты дзённіка будуць таксама зачытаны 5 лютага ў час гарадскіх святкаванняў гадавіны нямецкай лютаўскай акцыі ў беластоцкім гета. Тады фашысты расстралялі тысячы людзей, а ў лагер смерці ў Трэблінцы было вывезеных чарговых 12 тысяч.



**— Якім чынам дзённік трапіў менавіта да Вас, у Галерэю Слендзінскіх?**

**Іаланта Шчыгел-Рагоўская: —** Два месяцы таму з'явілася ў нас жанчына, якая прынесла нам незвычайную рэч: дзённік. Яна яго знайшла ў макулатуры. Ну, часта так здараецца, што нешта выкідаем і нават не задумваемся, што гэта. Яна сама палічыла знаходку вартаснай і падумала, што добра было б, каб яна трапіла ў нейкую ўстанову. Я — гісторык, даўжэйшы час займалася таксама музейнай справай. Калі пабачыла дзённік, ведала, што гэта каштоўнае. Зараз вядуцца працы па яго вывучэнні. Стараемся падрыхтаваць яго да выдання. Даследуем гісторыю дзённіка, між іншым тое, якім чынам удалося яго захаваць да нашых дзён.

**— Напэўна шмат чаго можна даведацца з дзённіка аб самім аўтары і яго сям'і.**

— Давід Шпіра паходзіў з адной з багацейшых беластоцкіх сем'яў. Фабрыкі Шпіры былі на вуліцах Юравецкай і Лонкавай. Калі прыходзяць тут саветы ў 1939 годзе, яго бацька і дзядзькі ўцякаюць у Вільню. Там прабуюць заснаваць фабрыку, але пазней уцякаюць яшчэ далей — у Шанхай. Не ведаем, як склаўся лёс бацькі нашага героя. У пэўны момант Давід піша, што бацька ўжо ў Шанхаі, марыць, каб з ім сустрэцца, каб да яго з'ехаць. Сам Давід пачынае пісаць дзённік, калі яму было 18 гадоў. Ёсць 1939 год. Гэта таксама спроба зразумення як ён, малады чалавек, мяняецца, як сябе знаходзіць у страшнай сітуацыі, у якой апынуўся. Неўзабаве памірае ягоная маці, якая не можа знайсці сябе ў ваенных абставінах. Ягоная цётка бярэ яго ў Супрасль. Пазней яўрэяў супрасльскага гета верагодна адпраўляюць у Трэблінку. Ягоную цётку таксама. Ён застаецца адзін. Малады чалавек жэніцца са сваёй першай любоўю. Першы фармальны шлюб узяў яшчэ ў савецкі час, рытуальны бярэ ў сінагозе ў гета. Гэта вельмі драматычнае апісанне даспявання маладога чалавека. Так папраўдзе мы не ведаем, як склаўся яго далейшыя лёс. Дзённік канчаецца ў ліпені 1944 года, значыць зараз перад пачаткам паўстання ў беластоцкім гета. На той час працуем над высвятленнем лёсу сям'і Шпіраў.

**— Дзённік Давіда Шпіра гэта перш за ўсё штодзённае жыццё ў гета?**

— Дзённік апісвае перыяд савецкай і нямецкай акупацыі. У дзённіку апісана як жывецца маладому хлопцу з буржуазіі. Ён сам называецца нешчаслівым. Пад савецкай акупацыяй перапыняе вучобу, там яго абзываюць буржуем. Пачынае працу, атрымлівае найгоршую з магчымых чорнарабочых прац, напрыклад у каналізацыі. Пазней, калі прыходзіць 1942 год, ён уцякае з Супраслі ў беластоцкае гета таму, што тут адчувае сябе бяспечна. Тут былі ягоныя людзі. Вядома, гета таксама жыве сваім унутраным жыццём. Ён сам становіцца паліцыянтам яўрэйскай службы... Гэта драматычнае апісанне будзённага жыцця ў гета, шматлікіх надломаў, калабарацыянізму, але таксама выжывання ў так цяжкіх абставінах.

**— Дзённік Давіда Шпіра неўзабаве трапіць да шырэйшага кола чытачоў?**

Так, зараз мы працуем над гэтым помнікам. Стараемся падрыхтаваць яго да выдання. Кніга выйдзе ў жніўні гэтага года да 75-й гадавіны паўстання ў Беластоцкім гета.

**— Як ацэньваеце вартасць такой знаходкі?**

— Вартасць дзённіка — бясцэнная. На працягу гадоў маёй працы ўпершыню бачу так вартасную рэч. Раней я сустракалася з нататкамі, якія паўставалі ўжо пасля вайны. Гэты дзённік пісаны ў час вайны.

Уля ШУБЗДА

## Агляд і недагляд

19 студзеня гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся агляд калядоўшчыкаў. Удзельнічалі ў ім салісты, дуэты, трыо, квінтэты, калектывы і хары з тэрыторыі Нараўчанскай гміны (Нараўка, Семяноўка і Старое Ляўкова), з Гайнаўкі і з Міхалоўскай гміны (Гарбары). Ахвотных спяваць калядныя песні было многа. Спявалі калядкі новыя і колішнія на беларускай, украінскай і польскай мовах. Калядніі мелі каляровыя гвязды. Вечарам гасцінна мела выступіць група калядоўшчыкаў з калектыву «Росніца» з Беларусі. Пра гэта я прачытаў на афішы на дзвярах ГАК.

Наймалодшыя дзеткі і школьнікі пачалі свае выступы а гадзіне 10.30 і закончылі а гадзіне 11.45. У зале было ўсяго некалькі чалавек, у тым ліку журы з трох асоб. Дзеці вельмі прыгожа спявалі. Было чатырнаццаць груп. Настаўніцы вельмі добра падрыхтавалі іх да выступленняў на сцэне. Прыехаў я на агляд з Новага Ляўкова на аўтобусе. Што мне было рабіць у Нараўцы да гадзіны 16, на якую арганізатары запланавалі агляд старэйшых калядоўшчыкаў? Меў спяваць калядкі саліст Янка Шыманюк з Семяноўкі, фальклорныя калектывы «Нараўчанкі» з Нараўкі і «Цаглінкі» са Старога Ляўкова ды калектыў «Прамень» з Гарбароў.

Я вярнуўся першым пасляабедзенным аўтобусам а гадзіне 12.30 у Новае Ляўкова. Прашу арганізатараў: не плануйце так у наступным годзе. Вазьміце пад увагу прыезджых з г.зв. тэрэну. Не ўсе яны маюць уласныя аўтамашыны. Хто жыве ў Нараўцы, той можа прыйсці ў Гмінны асяродак культуры другі раз таго самага дня. Але ж гэтае мерапрыемства не толькі для мясцовых жыхароў. Дагэтуль было лепш арганізавана. Агляд не быў «разбіты», ён быў у цэласці.

Дадам яшчэ іншыя заўвагі. Падчас сёлетняга агляду «Калядуйма разам» і падчас навагодняга канцэрта ансамбля «Бацька атаман» з Беларусі на сцэне ГАК было панура, цьмяна-цёмна, а глядзельны зал патанаў у яркім святле электралямпачак. Хто тады прыйшоў каго аглядаць — гледачы выступоўцаў ці наадварот? Апрача таго падчас канцэрта замежнага калектыву ў зале была страшэнна гучная музыка і спеў. Гэтую заўвагу падказалі мне слухачы, якія прыехалі на канцэрт з калёніі Новага Ляўкова. Так яно было. Я гэта ведаю, бо быў тады на гэтым мерапрыемстве.

## Солтыс дзякуе

У студзені гэтага года прыйшла сапраўдная зіма. Выпаў снег і тэмпература паветра ўпала да мінус 11 градусаў. Па пару днях настала адліга. Калі выпаў снег, у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, тоўстай коўдрай накрыў ён дахі дамоў, агароды, панадворкі, вуліцу і тратуар. З кожным днём снегу пакрысе прыбывала. Ён ляжаў тры дні на тратуары і жыхары вёскі хадзілі ў краму або ў царкву па маставой, а гэта ж небяспечна.

Ніхто не спяшаў расчысціць тратуар. Ды і не вельмі хто мог гэтым заняцца, людзей цяпер як на лякарства. Зімой старэйшых — адзінокіх бацькоў — дзеці забралі да сябе ў горад. Хто прыязджае на вёску вясной ды летам. Яшчэ хто знайшоў сабе працу ў іншай дзяржаве і туды з'ехаў. Адзін жыхар памёр і дома няма нікога. Пры дарозе зараз пустуе дзесяць дамоў.

Ды вось аднаго дня па тратуары (яго даўжыня больш за кіламетр) паехаў малы трактар снегаачышчальнікам і згарнуў снег на абочыну вуліцы або ў роў. За рулём быў Славамір Смольскі з Новага Ляўкова. Ён і ў папярэднія гады згартаў снег з вясковага тратуара.

Праз пасрэдніцтва «Нівы» солтыс Новага Ляўкова (ніжэйпадпісаны) шчыра і сардэчна дзякуе аднавяскоўцу спадару Славаміру за яго добры ўчынак. Ён ніўскі чытач, працавіты, ветлівы чалавек. Дома і на гаспадарцы займаецца жывёлаводствам (гадуе малочных кароў) і даязджае на працу ў Гайнаўку — там працуе выратавальнікам хуткай дапамогі.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Чыжоўская дэмаграфія

Чыжоўская гміна Гайнаўскага павета займае плошчу ў 134 квадратных кіламетры. Мяжуе яна з Арлянскай, Гайнаўскай, Дубіцкай і Нарваўскай гмінамі. У гэтай гміне сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 86% ад усёй плошчы і лясы — усяго 7%. Шчыльнасць насельніцтва складае 15 чалавек на квадратны кіламетр.

У 1995 годзе ў Чыжоўскай гміне пражывала 3500 чалавек, у 2005 годзе — 2528, у 2016 годзе — 2195 і ў 2017 годзе — 2087. У гэтай гміне 21 мясцовасць. Колькасць жыхароў з кожным годам памяншаецца. У ёй ёсць шэсць даволі вялікіх вёсак: Кленікі (396 жыхароў), Чыжы (335), Курашава (267), Збуч (159), Мора (147) і Койлы — (139). Больш 50 жыхароў налічваюць Падрэчаны — 83, Асоўка — 82, Лянева — 73, Шастакова — 69, Ракавічы — 61 і Гукавічы — 57. Невялікія вёскі гэта Камень — у ёй 47 жыхароў, Ляды — 38, Лушчы — 33, Ляшчыны — 31, Сапава — 29 і Максімоўшчына — 16. Найменшыя тут тры вёсачкі Вежанка, Падвежанка і Вулька — у іх па восем жыхароў.

У 2017 годзе памятныя медалі «За шматгадовае шлюбнае сужыццё» атрымалі наступныя пары: Марыя і Васіль Севаст'янюкі ды Вольга і Рыгор Іванюкі з Кленік, Зіна і Леанід Конахі з Лушчоў, Ніна і Сяргей Насковічы ды Марыя і Рыгор Якімюкі з Чыжоў, Валянціна і Анатоль Сачко, Ніна і Уладзімір Баравікі ды Анна і Васіль Філіманюкі з Мора, Вольга і Уладзімір Андраюкі з Сапава ды Валянціна і Рыгор Плісы з Шастакова. Сёлета медалі атрымае дванаццаць шлюбных пар з Гукавіч, Каменя, Кленік, Койлаў, Курашава, Лушчоў, Лянева, Падрэчан, Ракавіч і Чыжоў.

У мінулым годзе ў Чыжоўскай гміне нарадзіліся 9 дзяцей і памерлі 60 асоб, у тым ліку 13 чалавек у сваім доме. З сумнай хронікі: у 2016 і 2017 гадах найбольш пахавін было ў вёсках Курашава — 19, Чыжы — 16, Збуч і Мора — па 10, Койлы — 7, Асоўка, Кленікі, Ляды, Ракавічы і Шастакова — па 6, Гукавічы — 5, Ляшчыны — 4 і Лушчы — 3.

Зараз у вёсках гэтай гміны жывуць пажылыя людзі. Моладзі тут як на лякарства.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Ніколі не мацюкаліся славянцы

**Інквізіцыя ў роўнай ступені адпраўляла на дыбу і касцёр нявэрніка ў Бога, засумнявалага ў існасці біблейскіх палажэнняў і папскіх вердыктаў, лаяншчыкаў. Хто б не данёс інквізітарам на вымавілага лаянкавае слова (на Д., Ч., П., Б., Х., Е., Ё, як правіла яны не вымаўляюцца) — з першага сігнала адпраўлялі лаяншчыка ў катоўню, на допыты, эшафот. Нароўні з самімі нявернікамі.**

Боль і страх болю вучаць. Найрэдкіх узбліскаў лаянкі ў Еўропе не стала.

Выходзіць лаянка ад таго, чые імя ніхто не называе на вуліцы, тым болей у хаце, бо страшыцца абгнюсіць нявартнымі гукамі паветра, адну з вялікіх існасцяў сусвету, страшыцца граху, ідзе яна ад нячысціка, ліхога.

Ніколі не мацюкаліся славянцы. У беларусаў і палякаў, украінцаў да расійскай акупацыі 1795 года самай вялікай лаянкай былі курва і халера, то-бок прадажная дзеўка і хвароба.

Палякі і цяпер практычна не мацюкаюцца, славакі, чэхі, славенцы, сербы наогул не мацюкаюцца.

Этрускі, скандынавы, кельты славянцы, парусы, балты, раманцы, германцы здавёна не ведалі матаў. Англічанам Вялікабрытаніі і ЗША матаўскія словы прынеслі эмігранты з Венгрыі, Расіі (В. Бутлер «Происхождение жаргона в США», Нью-Йорк, 1981).

У старажытнасці славянцы-язычнікі не мацюкаліся. У Кіеўскай Русі і ВКЛ ніхто не лаяўся. Не ўмелі, для іх дзікунствам было абліваць некага слоўнымі памыямі, асабліва бацькоў. Суцэль чулася мацяршчына ў Масковіі, якая акурат і не была Руссю (Арцём Дзянікін «Секретные исследования», № 16, 2007), наогул не лічылася славянскай дзяржавай у тагачассі і шмат пасля.

У Масковіі дакументаў (царскіх указаў, думскіх распараджэнняў) пра забарону мацюкоў і пра мацюкі вялізарнае мноства, у ВКЛ і Рэчы Паспалітай — ніводнага.

У 1480 годзе князь Васіль ІІІ заканадаўча патрабаваў ад маскавітаў перастаць лаяцца. Іван Грозны змушваў люд маскавіцкі «непотребной лаею не браница...». Цар Аляксей Міхайлавіч ва ўказе 1648 года гразіў лаяншчыкам жорсткаю караю.

Мноства рэк, узгоркаў, гаёў, палеткаў, паселішчаў у маскоўцаў называліся на П, Б, Х, Е, Ё, Ч, Д. Толькі ў канцы XVIII стагоддзя ўказам Кацярыны Вялікай большасць, калі не ўсе, непрыстойныя лаянкавыя назвы нарэшце былі заменены. У тым ліку тысячы тапонімаў, гідронімаў.

Такое сарамоцце, прыніжаны стан этыкі і культуры народа дакастрычніцкія рускія, а пасля савецкія гісторыкі выкрутліва называлі адказам простага народа на манголататарскае панаванне. Няправільная ацэнка. Татарын захватваў дзяўчыну/жанчыну, казаў, што ён яе «эбле», то бок жэніцца на ёй; яго словы месцічы перакруцілі ў лаяншчыну. Жанчын у вярхахонных і юртавых народаў заўжды мала, не вытрымлівалі таўкатні і пераездаў, мужчынам за гонар мець жонкаю іншапляменку, асабліва блакітнавокую бялянку. Даўнейшыя і цяперашнія расейцы звычайнае бытавое слова, «эбле», жэніцца, забярэ ў жонкі, з'іначылі, абпошлілі: ага, заваёўнік будзе гвалціць бабу, уступіць ў сексаднасіны сам ці аддасць яе для гэтага такім жа.

Татары Казані (булгары) былі пад Ардою, як і Масковія. Ніякіх матаў самі не спарадзілі, чужых не пераймалі, нічога лаянкавага не засвоілі ад сумесі фіна-ўгорскіх і цюркскіх плямёнаў. Арда мангола-татарская далучала да сябе, па праву еднасці аб'ядноўвала кроўныя народы — мардву, эрзя, мокшу, мураму, чудзь, меру, моксву, пермаў, мяшчэру. Злучала ў цэльную дзяржаву фінаў Разані, Масковіі, Суздаля, дасягнула фіна-ўгорскіх народаў, расселеных ад Ваалама і Волгі да Угоршчыны (Венгрыі).

Нечувана бессардэчная Арда (сцвярджалі потым навукоўцы Расіі і СССР) штодня таптала звычаі і захоплены маскавіцкі народ, разбэшчвала. Не ўзгадвалі, што Масковія толькі плаціла падаткі і выстаўляла войска для арміі Арды. Масковія фактычна каланізаванай не была. Па ёй раз'язджалі рэдкія зборшчыкі — дык не татары, а самі маскоўцы, кшталту дружыннікаў Аляксандра Неўскага.

Тэорыя дакастрычніцкіх рускіх і савецкіх гісторыкаў — маскавіты пераймалі мат у мангола-татараў — выдумка. Калі не панізіць, дык хоць як апраўдаць размацюкаванне цяперашніх рускіх. У мове цюркаў і манголаў дасёння мацюкоў не існуе, ніякіх.

Экспедыцыі славутага савецкага акадэміка Валянціна Яніна двойчы выкопвалі берасцяныя граматы з шматлікімі матамі пад Ноўгарадам Вялікім, ад татаршчызны і фінаў горадам далёкім і чужым, напаўзалежным ад ВКЛ, поўнасцю незалежным ад Скандынавіі, тым болей ад малазначнай Масковіі. Калі сябраваў Ноўгарад з некім, дык з блізкімі Псковам, Рыгай, Полацкам.

Ноўгарадская граматы нашмат старажытнейшыя за прыходы ардынцаў у Суздальскае і Маскоўскае княства. Пісалі тэксты на бяростах тамашнія фіны-саамы (чудзь, моксва, весь, мурама, пермы), заснавальнікі Масковіі, гаспадары земляў маскоўскіх, лаянка і мова ў іх не пазычаныя, свойскія. На выкапаных з-пад паселішчаў бяростах лаянкі процьма. Што, татары на іх мацюкі пісалі? На стагоддзі раней прыехалі, напісалі маты на бяросце і лоўка закапалі ў даўнія земляныя пласты?

Тымі самымі рускімі матамі лаецца яшчэ адзін народ на свеце — венгры. Яны з Волгі пайшлі ў Цэнтральную Еўропу задоўга (на стагоддзі) да Чынгісхана і Батыя. Іх летапісы, як маскавіцкія і наўгародскія, перапоўнены мацюкамі. Аналагічнымі сэнсам, формаю.

Калі венгры, эстонцы, фіны прызнаюць, што яны адзін і той фінскі этнас, то цяперашнія рускія (славянізаваныя кіеўскімі епіскапамі і папамі фінскія плямёны) наўсяляк адмаўляюцца. Вялікаросы ўсенатужна прыбіваюцца да Кіеўскай Русі, ВКЛ, нават Рэчы Паспалітай, з якімі шмат і доўга варажавалі, ваявалі. Расейцы паўтара стагоддзя плішчацца ў доказваннях старэйшасці над малодшымі братамі — беларусамі, украінцамі. Хаця беларусы, украінцы старэйшыя за так званых цяперашніх суздальцаў, як Кіеў за Маскву, мінімум на паўтысячагоддзе.

Даследаванні рускай прафесуры (2000-2006) неабвержна паказалі: генетычна на 80 працэнтаў цяперашнія рускія сходныя фінскаму этнасу — венгры, мардва, комі, моксва, эстонцы, ханты, мансійцы. Тапонімы Перм — ад народа перм, Мурам — ад народа мурама, Разань — ад народа эрзя, Масква — ад народа мокшы/моксва, галоўнага сельбішча ў мардоўскім этнасе.

Племя моксель дало назву рацэ і паселішчу Моксва. У Кіеўскай Русі славянцы пераназвалі галоўнае паселішча мардоўшчыны болей дабрагучна — Масква. Тое ж тычнулася дзяржаў/княстваў Эрзя (Разань), Пермія (Перм). У іхніх мовах і гаворках мацюкоў здаўным даўно плоймы.

Як да 1795 года дзяржаўнага прыгоннага права ў ВКЛ, на Украіне фактычна не было, так не існавала практычна матаўства.

Калі ў асобных старажытных народаў планеты мацюкі — своеасаблівыя водбліскі плоднасці, у рэдкія моманты — эмацыйная разрадка, то фіна-ўгры матаўнілі заўжды, для іх такое звычнасць. У фіна-ўграў, як ва ўсіх беднякоў, гэта адвечная прага выказаць вышэйшаму станам, духам, багаццем, пану і ратніку, нават князю сваю незадаволенасць, жаданне зраўняцца з валадарным і заможным хоць у чым. Мацюкі ў іх нарадзіліся ад нянавісці прыгнечанага да паноўнага. Дарэчы, так выспяваў турэмны слэнг.

Сімптомы эвалюцыйнай недаразвітасці ў індывіда і племені найперш праяўляюцца ў канфліктах, спрэчцы. Абмежаванаму і недарочнаму тут воля, у словах, лаянцы. Мацюканцу абавязкова патрэбна, каб хтоніхто чуў яго, смелага, грознага, каторы нікога не баіцца.

Так малпы для выказу сілы і велічыні дзьмуцца, крывяцца, паказваюць член. Пужаюць суперніка, абражаюць і прыніжаюць гукам (бздзеннем), сліною, мачою. Хочуць узвысіцца найперш не справаю, кулаком, бойкаю — абліваннем другога фізіялагічнымі адходамі.

Індаеўрапейцам (этрускам, скандынавам, русінам, парусам, кельтам, германцам) для выказвання не патрабаваліся лаянкавае слова, малпавыя павадкі. Яны выхоўваліся ў іншым культурным і этычным асяроддзі. Гукаў ім хапала. У вялікалітоўцаў (беларусаў) найгоршым выказам незадаволі былі (паўторымся) словы халера, трасца, курва.

*Паступова народы ўшалопілі: мат разбурае аснову грамадства — мараль, духоўнасць. Як гарэлка. Мат, зароджаны на нейкім этапе чалавечага развіцця ў бедняка і слабага як абраза лепшага, багатшага, працёўніка, пана, для прыніжэння яго мацi і радні, мат біялагічна адмоўніца індаеўрапейцу. Лаянка фізіялагічна разбэшчвае дзяцей, спараджае эксгібіцыянізм, парнаграфію, гейства.* Нішчыць традыцыю племені, нацыі. Навошта вучыцца ў школе, гімназіі, каб прыраўняцца да лепшых матэрыяльна і духоўна, а то і ўзвысіцца. Можна пасласць вышэйшага на хутар, аргументацыя і доказы другога мне нуль, я пакажу яму сваю крутасць і сілу прасцей.

У ВКЛ не так даўно яшчэ за абразу словам выклікалі на дуэль, білі поўху. Роўні. На лаянку парабка і слугі, як сцёб хвастом быдла (той жа каровы, каня), не звярталі ўвагі. Як на выпуск паветра немаўлём.

На планеце Зямля навучанне хоць чаму патрабуе старання і ведаў, вымогі і поту. Лаяншчык абыходзіцца без усяго — ведаў, культуры, майстэрства. А павагі хоча, увагі патрабуе. Як папуас звяртае ўвагу на сябе пер'ямі і татуіроўкамі, так цяперашні пустадомны фінскі і мардоўскі, славянскі і германскі, кельцкі і раманскі маладзён, духоўна недаразвіты тупак-акселерацік жадае выдзеліцца завушніцамі, металам у носе і на носе, рванаю вопраткаю, нязвычнаю афарбоўкаю валасоў.

*Выраджаны манатоннем працы, духоўнай пустаты, тэлевізійным сучасным павярхоўніцтвам, бедным асяроддзем цяперашні асобны рабацяга шагае па той жа сцяжыне, пачынае абыходзіцца мінімумам словаў, прыгажосць мовы фінскай і рускай, беларускай, польскай, украінскай нізводзіць да аднастайнасці... аднаго-трох слоў. Лаянкавых. Не заўважае малады і сталы ўбоства сваёй лексікі, не кеміць — лаянка выраджае душу, гноіць цела, не дапускае плоднасці, не дае росту ні ў чым. Як ворагамі свету і любой устоенай рэлігіі з'яўляюцца дэструктыўныя і псеўдарэлігійныя культы, секты, так лаянка нішчыць дух, і пустошыць хутка.* Па сіле дэструктыўнага ўздзеяння на свядомасць чалавека таталітарныя культы значна пераўзыходзяць алкагалізм, наркаманію. У чалавека мацюкі адбіраюць лексіку, ён абыходзіцца сотняйдругой слоў, ператвараецца ў працоўнага вала, прыладу новаз'яўных шаманаў, ва ўцялесенага зомбі.

Асабліва небяспечна, калі духоўны недапечанец, незалежна ад нацыянальнасці, узросту, прафесійных уменняў, у сталасці ўзаб'ецца на пасадные седала, грашоўнасць. Такі непазбежна сам ганебна і хутка фінішуе ў мінусы, такі цягне ў няшчасці іншых.

Мацюканне разбурае біялагічнае поле чалавека, душу, значыць цялеснасць любой двуногай істоты, знішчае яе. Не проста знішчае, аднімае здольнасць супраціўляцца іншародным інфекцыям — алкаголь, тытунь, касмапалітызм, ідзі так званага адкрытага грамадства, то бок закрытыя да нацыянальнага, Бога. Калі чалавек пасылае другога да такой-та маці ці на хутар, пра ніякую духоўнасць і развіццё ў яго нельга гаварыць, з ім не варта перасякацца, тым болей сябраваць.

У недарэцтве асобных цяперашніх эстрадных песень, касмапалітызме і павярхоўнасці, напаўблатняцтве слэнгу, за ўсе хазы і мызы, асобныя докі зачастую вінаваццяць жыдоўскія традыцыі. Маўляў, планетарныя інтэрнацыяналы і касмапаліты спецыяльна забруджваюць, разбураюць прыгожую нацыянальную песню любога народа. Гэта не так. У дзяржавы, якой абыякавы паўсюдны сённяшні музыкальны ўсплёск эстраднага гуду і шалу, у нацыі, у якой традыцыйнасць і прыкметы сыходзяць на дзясяты план, лаянства будзе шырыцца, квітнець, выраджэнне і сыход такіх нацый у Лету непазбежныя.

Эстрада патрэбна эстэтычна напаўграматнаму, даступная не вымагае істотных напружванняў душы, пагульвае на малых пачуццёвых струнах. Яна не развівае глыбокай этычнасці, не нясе сапраўднай народнай культуры.

Выверты і спасылкі на касмапалітаў і габрэяў, фінаў і рускіх, беднякоў і багацеяў — звычайнае выкруцельства нацыянальных бяздумцаў. Стараюцца апраўдаць уласную слабасць і бяздзейства, няўменне.

Адумаецца народ, стане караць этычных пустадомкаў і начальніцкіх пустакветаў — ажыве; займее мову, адну, як маці, народную ідэю — ажыве. Інача́й знікне, растворыцца, як некалі магутныя этрускі, ацтэкі, майя. Прыкметы першыя пра такое сведчаць, папярэджваюць, вучаць. Асаблівa супрацьлаянкавыя прыкметы.

**Неабходна запамятаць кожнаму:**

1. Хто лаецца, вымаўляе словы на П, Б, Х, Е, Ё, Д, Ч — засмечвае космас гукавымі нечыстотамі. Блюзнерыць, паніжаецца.
2. Вымавіў лаянкавае слова — плюнуў на самога сябе. Прабіў уласнае біяполе. На перакрыжоўным жыццёвым сутыку аплёваны цяжар пацягне чалавека ўніз, на страты, у цемру. Так набухлая вадою вопратка нават добрага плыўца пераводзіць у шэрагі тапельцаў.
3. Пачуў лаянкавае слова — сунімі лаяншчыка. Не можаш — адыдзі. Лепей зрабі прыстойны ўчынак, заслужы добрую вагу сабе — упыні маладога/сталага невука. Застаўся блізя яго — атрымаў гукавыя пляўкі, не на голае цела, але атрымаў. Зачарніў ягонымі гукамі сваю аўру, вымазаў біяполе, прабіў біяполе.
4. Твая лаянка збочвае цябе з дарогі, цягне да завілага, стратнага — сябе, родных, грамадства.
5. Не дапускайце брыдкаслоўя на вас, пры вас.
6. Асобныя людцы па цемнаце ці свядомых ілжэдасягненнях і вывадах пэўняцца: мы другой веры, нацыі; сярод людзей другой нацыі/веры нягрэх лаяцца, клясціся, вучыць няправільнаму, шкоднаму. Робяць тое, ад чаго засцерагаюць уласных дзяцей, што не робяць ва ўласных кватэрах, храмах. Хітра-мондрыя забылі, што Бог — адзін, усюды. Нездарма ў любой рэлігіі і нацыі Ён — Найдобры, Усебачны, Наймоцны. Магутная Яго бясконцасць любы грэх ацэньвае належна. Нізісць. Як усялякае паскудства, навуку на зло. Пры любых калізіях лаяншчык мажа, ілжывіць не іншаму — сабе.
7. Патрэбна часам радавацца, калі вас прабіраюць, на вас крычаць (не брыдкімі слоўмі). Навука не заўжды спакойная. Нішто так моцна не заганяе чалавека ў сябе, як крыўда.
8. Ачышчайце ад гукавых нечыстотаў найболей успрыманае і тонкае ў касмічным віру, ачышчайце флюіды паветра ў памяшканнях, парыльнях, на вуліцы. Заслугоўвайце павышаную аддзяку Яго сабе і крэўным, ліквідоўвайце жывельную грахаводнасць невыхаванцаў, тупакоў, невукаў, супыняйце лаяншчыкаў.
9. У любой дзяржаве, устаялай, здзейсненай, неабходна забаронста на нецэнзурную лексіку ў кнігах, кіно, спектаклях. Абавязкова. Апраўданні аб'ектывістаў-аўтараў — народ лаецца, мой герой брыдкаслоўнiць у жыцці, а ў кнізе/спектаклі павінна быць жыццёвасць, чаму б маты не прапусціць — ідзе ад таго ж: а) жадання вылучыцца хоць у чым (завушніцы ў вушы хлопца, сіняя фарба валасоў у дзеўкі); б) неразумення глыбіннай народнай культуры народа, сярод якога жывеш; в) хоць як дапячы традыцыйнаму аўтару, яго нацыі, дзяржаве.

У кожнага саслоўя любой дзяржавы ўласная мова, лексіка. Чым мацней культурнае і ўласнае саслоўі, тым таўсцей іх слоўны пласт, тым меней у іх мове мацяршчыння, няма лаянкі. Для інтэлігента пачуць лаянку — атрымаць пырскі бруднай вады на гарнітур, плявок у душу. Чысціце сваё біяполе, супыняйце лаяншчыка, сарамаціце.

Валер САНЬКО



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Пазнаюць гісторыю праз эмоцыі



Чацвер, першы тыдзень зімовыхканікулаў.У Бельску, хоць у гэты дзень рынак, не відаць натоўпаў. Многія адсыпаюць напружаны час вучобы. Сучасныя дзеці і ліцэісты патрапляць спаць да абеду...

Але не моладзь з калектыву «Антракт»! Як кожны дзень з'явіліся на рэпетыцыі. Бадзёрыя, вясёлыя, разгавораныя. Ліцэістка Гося Мацкевіч падае «Добры дзень!» з шырокай усмешкай.

— Мы рыхтуем новы спектакль «Рэкруты», — заяўляе, — пра тое, як маладога хлопца забралі ў царскае войска на 25 гадоў. Спяваем рэкруцкія песні...

— Гэта, мужчынскі абрад, — гавару. — Якія ролі іграюць дзяўчаты?

— Я іграю сястру рэкрута, і спяваю, — кажа Гося. — «Сястра» вельмі перажывае, што брат паедзе і не будзе яго доўгія гады ў хаце. Яна плача разам з маці і дзяўчынай, якая кахае таго хлопца...

Дзякуючы спектаклю маладыя акцёры пазнаюць гістарычную падзею праз эмоцыі. Яны, як у любы гістарычны час, набрынялыя і розныя.

— У нашым спектаклі не ўсе плачуць, — адзначае мая субяседніца. — Большасць вясковых дзяўчат смяецца з закаханай дзяўчыны. Яна для іх дурачка, якая пакахала рэкрута. Яе лічаць страчанай для грамадства. Хто нармальны столькі гадоў будзе чакаць хлопца?

— А я думаю, — падводзіць усё Гося, — што калі між людзьмі ёсць сапраўднае каханне, то яно ператрывае перашкоды і ніякі час не знішчыць іх пачуццяў.

— Мае дзяды былі беларусамі, таму праз гэты спектакль я пазнаю, як яны жылі, — кажа Таццяна Цясноўская.

Праўда, у сям'і не расказвалі пра рэкрутаў, хоць бабуля апавядала пра бежанства. Рэкруцкія песні напамінаюць настроем гэтую падзею. Тацяна не хацела б апынуцца на месцы дзяўчыны, у якой забіраюць хлопца на доўгія гады ў салдаты. Найбольш страшная іх безабароннасць....

Тацяна — вучаніца шостага класа бельскай «тройкі». На рэпетыцыі «Антракта» прыходзіць ужо тры гады:

— Люблю акцёрства і прымаю ўдзел у розных дэкламатарскіх конкурсах, — дадае.

Оля Зінкевіч звязалася з «Антрактам» у першым класе пачатковай школы. Памятае свой першы спектакль пра лясных звяркоў, дзе яна іграла ролю Вожыка. Хоць ад той пары мінула дзесяць гадоў, Оля не згубіла энтузіязму для тэатра. Наадварот, яна зжылася са сцэнай. Лягчэй ёй выступаць, дэкламаваць вершы. Апошнім часам захапілася мастацкімі занняткамі. Найбольш падабаецца ёй маляваць прадвесне.

— А ў спектаклі іграю ролю вясковай дзяўчыны, якая перашкаджае маладым. Яна не верыць, што іх каханне ператрывае доўгія гады....

Оля Зінкевіч — знакамітая карэспандэнтка «Зоркі», надзвычай тактоўная і ўражлівая асоба. Таму яе ролю зайздроснай дзеўкі каментуем усмешкай. Такія ўвасабленні многаму вучаць і дазваляюць адрозніваць добрых і дрэнных людзей...

Якраз на сцэне Бельскага дома культуры ідуць рэпетыцыі. Інструктар і заадно дырэктар установы Альжбета Фіёнік выпраўляе хібы. Кожны жэст, кожны крок надзвычай важны. Тэма рэкрутаў не новая для акцёраў «Антракта». Яе закранулі раней праз песні, якія прагучалі ў іхнім спектаклі «Бежанства». «Рэкруты» падобныя ў настроі, хоць бельскі спектакль бадзёры, як сам Максім Фіёнік, які іграе ролю рэкрута. У яго бок ляцяць словы падтрымкі:

... *«Будэш як панок ходіті, булавою вошы біті»...*

... *«Як прыстанэш, улан будэш, нэ захочэш, свіэт забудэш»...*

... *«Дадут коня, мундір новы, а на плечы кій дубовы»...*

Песні надзвычай важныя, яны наклікаюць настрой і папаўняюць сказанае:

— Дзякуючы такім спектаклям, я магу адчуваць як жылі мае продкі, — кажа Інэса Гапанюк.

З «Антрактам» сябруе ўжо шэсць гадоў. Спявае таксама ў «Жэмэрве».

— У рэкруцкіх песнях часта выступае матыў зязюлі, — адзначае Інэса, — якая сваім каваннем прадказвае для маладых лёс. Яго гісторыя неверагодная. Сёння ніхто не памятае, як цярпелі маладыя людзі, калі забіралі ў войска на 25 гадоў, бо ў сям'і не было грошай, каб іх выкупіць. Такія людзі не маглі абараніцца...

— А якая твая ўлюбёная песня? — пытаю ў Інэсы, якая на другім тыдні зімовых канікул паедзе на музычныя майстар-класы «Жэмэрвы» ў Нарву.

— «Зялёная ляшчына», — кажа, — яна такая *сэрцашчыпальная*...

Тэатральны гурток «Антракт» безупынна ставіць перад сабой выклікі. Вось, на другім тыдні зімовых канікул паедуць са сваім «Вяселлем» на тэатральны агляд у Ломжу. А на «Рэкруты» прыйдзецца яшчэ пачакаць. Тут трэба шмат рэпетыцый і працы, каб не падвесці гледачоў. На сваю рэпутацыю «Антракт» працаваў больш за дваццаць гадоў, таму ім неабходна трымаць высокі ўзровень і жывую атмасферу вакол спектакляў.

Час нашай сустрэчы, 25 студзеня, можна лічыць надта жывым момантам у заспаным зімовым Бельску.

**(гак)**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# Мне хочацца жыць і рабіць шмат рэчаў!

У ліку чатырох стыпендыятаў маршалка Падляшскага ваяводства з аднаго толькі Гайнаўскага белліцэя апынулася Наталля Васько.

Наталля пачала пісаць у «Зорку», калі яшчэ была вучаніцай Пачатковай школы ў Нараўцы. Пасля, цягам доўгіх гадоў, прымала ўдзел у Сустрэчах «Зоркі», дзе праявіла здольнасць як публіцыст, паэтка, дызайнер, урэшце рэдактар і класная сяброўка. І зараз, калі паглядзім мерапрыемствы ў яе ліцэі, дык, здаецца, што ніякая падзея не можа адбыцца без яе ўдзелу. Наталля не толькі выступае на сцэне. Яна пра ўсё піша ў школьную газетку і ў «Ніву». Гэта рэдкі выпадак, калі нехта праяўляе такую пашыраную канцэнтрацыю. Але нас гэта не здзіўляе. Для нашай цудоўнай сяброўкі ўсё атрымліваецца проста!



У сувязі з прэстыжнай узнагародай мы спыталі ў Наталлі пра крыніцы яе поспехаў і пра планы на будучыню, якое значэнне маюць для яе эмоцыі і беларуская мова.

— Вельмі дапамагае мне любоў да беларускай мовы, — кажа наша сяброўка, — таму што гэта прыгожая мова і яна дае многа радасці ў жыцці. Мне хочацца жыць і рабіць шмат рэчаў, а гэта дапамагае развівацца...

— На што прызначыш стыпендыю?

— Яшчэ не ведаю на што прызначу стыпендыю, але ведаю, што хачу далей развівацца ва ўсіх мастацкіх галінах і думаю, што стыпендыя мне ў гэтым дапаможа.

— У якую вышэйшую навучальную ўстанову думаеш паступіць?

— Гэта вельмі цяжкае пытанне, таму што я магла б рабіць шмат рэчаў у жыцці. Напэўна хацела б далей развіваць мастацкія здольнасці: спяваць, рысаваць, пісаць, выступаць на сцэне. Хацелася б таксама вывучаць нейкую спецыяльнасць, звязаную з матэматыкай, таму што я вельмі палюбіла гэты прадмет у ліцэі.

Жадаем Наталлі здзяйснення яе мар, каб усё атрымалася як трэба.

Пры нагодзе віншуем настаўніка Янку Карчэўскага, які заявіў да ўзнагароды нашу сяброўку і сяброў з Гайнаўскага беліцэя: Яцка Дружбу, Юлію Рушук, Шымана Ручынскага і Аню Бяляўскую. Яны таксама сталі стыпендыятамі маршалка Падляшскага ваяводства.

Малайцы!

**Зорка**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Певень і цар

Прынеслі пеўня ў палац, каб ён кукарэкаў па начах. Убачыў яго цар і кажа:

— Дам табе ўсё, што трэба, толькі глядзі, не корпайся ў гразі і зберагай парадак.

— Але! — адказаў зухавата певень.

На другі дзень цар пабачыў пеўня, як той ходзіць па двары і грабецца ў смецці. Вакол пыл і дзярмо. Ну, гэтага ўжо немагчыма было сцярпець:

— Дурань ты! — узбурыўся цар. — Я ж табе гаварыў, каб не хадзіў па двары і не гробся ў сметніку. А ты, быццам на злосць, палез ды запаскудзіў мае дываны...

— Я гэта раблю не па сваёй волі, — адказаў скароны певень, — а толькі па сваёй прыродзе. Без балотца і смецця мне не жыць і не кукарэкаць па начах!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Цераз зараснік інею ў ранішнім лесе...

Цераз зараснік інею
ў ранішнім лесе
Прабіраецца сонца
— ціхусенька так,
Затаіўшы дыханне:
хацяў б не атрэсці
Гэты цуд, што стварыў
найвялікшы мастак.
І ўсё ж нейкую нітачку
дзесь зачапіла:
Скалыхнулася голка
— пыл срэбны курыць...
Ну і ну! Нават дотыку
промня хапіла,
Каб, парушыўшы чары,
красу разбурыць!

Янка КУПАЛА

## Мароз

Іду я, сняжысты, ўсясільны,
Па сцежках-пуцінах пустых,
І ночкай і днём безупынна
Пільную абшараў сваіх.

Бязмежна, ўладарна паную
Пад сховаю пушчавых вех,
Каронаю бор мне зялёны,
А тронам-пасадам бел-снег.

Палац мой
— лес буйны, вяцвісты —
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзведзь у паслугах,
Мне служаць вавёрка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казкі шапчу ім аб шчасці,
І цемру зганяю з вачэй...
Хадзіце, хадзіце к Марозу!
Хадзіце у госці хутчэй!

## УВАГА КОНКУРС! № 50-17

**Што за гаспадар лясны**
**Спіць пад снегам да вясны,**
**Ну а летам да калод**
**Ходзіць красці чужы мёд?**
**М........**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 11 лютага 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 1-2018: мароз і ледалом. Узнагароды, кніжкі Свэна Нурдквіста «Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі», выйгралі Оля Кобусь з Бельска-Падляшскага, Томак Ваўранюк з Нарвы, Эмілька Калодка з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 05-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 01-18:**

Моц, сані, анёл, гномік, тры, Об, ген, яна, чараўнік. Мара, печ, на, бант, норка, сёмы, шалі, Ян, коні, лік, бак.

Узнагароды, «Смяшынкі» Віктара Шведа, выйгралі **Карнелія Порац** з Нарвы, **Марына Сяроцкая, Ігар Чаховіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Матвей Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Уршуля Сахарчук, Мікалай Троц** з Бельска-Падляшскага, **Пётр Вілюк** з Арэшкава, **Алівія Харкевіч** з Нараўкі. Віншуем!



**Угэтым годзе спаўняецца 60 гадоў „Белавежы” — літаратурнаму аб’яднанню беларускіх пісьменнікаў Польшчы. Гарадзенская пісьменніца, літаратуразнаўца Альжбета Кеда (Ала Петрушкевіч) закончыла працу над кнігай „Белавежа: Учора і сёння”. Прапануем чытачам урывак, развагі аўтаркі пра аповесць „Самасей” Сакрата Яновіча — аднаго з самых вядомых „белавежцаў”.**

# ПА СТАРОНКАХ АПОВЕСЦІ САКРАТА ЯНОВІЧА „САМАСЕЙ”

Мяркую, не памылюся: аповесць Сакрата Яновіча „Самасей” — самы складаны твор у прозе „Белавежы”, да якога нячаста звяртаецца крытыка. Калі „малая” проза пісьменніка даволі шырока прааналізавана, то аповесці пашанцавала значна меней. Мо таму, што класічнай, правільнай аповесцю яго назваць нельга, бо і *цвёрда вымураванага сюжэтнага каркаса няма... І пераскокі ў дзеянні ён смела робіць, не баючыся парушыць цягучую традыцыйную пластыку* (У. Рубанаў). І сам рух дзеяння тут не знешні, а ўнутраны: рух думак, пачуццяў, перажыванняў. І рух памяці, якая ўвесьчасна вяртае ў мінулае.

Найбольш глыбокае даследаванне зроблена ў працы Яна Чыквіна „Шлях па крузе (Штрыхі да творчай біяграфіі Сакрата Яновіча)”, дзе літаратуразнаўца называе аповесць найлепшым творам пісьменніка, доказна сцвярджае: *Якраз „Самасей” канцэнтруе найбольш вартасныя рысы прозы Сакрата Яновіча. Рэтраспектыўны твор гэты зырка асвятляе ўсё раней ім напісанае і стаецца для большых ды меншых па жанру яго літаратурных твораў надта патрэбным кантэкстам.* Ян Чыквін разглядае твор і ў звязку з эпохай, якая тут адлюстравана, і з асабістым жыццём аўтара, складанымі, а часам трагічнымі момантамі ў ягонай біяграфіі.



Фота Міры ЛУКШЫ

У аповесці багата папярэднікаў з класічнай беларускай літаратуры. Найперш згадаем „Самсона Самасуя” Андрэя Мрыя. Тыя ж абставіны, у якія трапляе галоўны герой, сын вёскі, імкнучыся знайсці сваё месца ў жыцці, сцвердзіць сябе. Толькі адна літара зменена ў слове: Самасуй — Самасей. І зменена вельмі многа. У пачатку аповесці падаецца, што героі — два тыпы-антыподы. Прасунуцца куды толькі можна, улезці, выслужыцца, у першым выпадку, і засесць глебу вакол сябе, утрымацца, каб выжыць, бо так і не знайшоў свайго месца, — у другім. Герой Мрыя — кар’ерыст, невук, эгаіст, які нахабна лезе па службовай лесвіцы, ужываецца ў тую сістэму, у якой кіруюць подласць, здрада, данос. У такой сістэме існуе і герой Яновіча, які разумее, што самасуяў не паменела ў грамадстве, што яны, як і раней, прабіваюцца да кіруючых пасад. Вось як успрымае сваіх калег на нарадзе ў кабінеце дырэктара: *Расселіся, бы сытыя гусі ля карыта з цестам*. Самсон Самасуй — частка, шрубка сістэмы, грамадства, стан якога яго задавальняе, *ён надзелены неўтаймоўным жаданнем тварыць, якое з’яўляецца вульгарным* (А. Белая), ніколі не мае сапраўды станоўчых вынікаў. Андрэй Антошка таксама частка такога грамадства, але такі стан рэчаў не можа задаволіць героя. Ён увесь час у пошуку, у блуканнях. Раздвойваецца між мінулым і сучасным, між вёскай і горадам, між рэальнасцю і мрояй, між сном і явай. А гэта ўжо іншы, уведзены ў айчынную прозу яшчэ Максімам Гарэцкім рэфлексіўны тып героя. Інтэлігент, сын вёскі і яе пасынак, чужы ў горадзе, але жыццё прамінае тут. Герой Сакрата Яновіча — нашчадак не Самсона Самасуя, а хутчэй Лявона Задумы, Ігната Абдзіраловіча. Але вось у хвіліны, калі раздваенне душы патрабуе выйсця, калі пачынае гучаць голас сумлення, у Андрэю Антошку прачынаецца самасуй. Напачатку імкнецца цывілізавана даказаць, чаму дазваляе амаральныя ўчынкі, *падводзіць філасофію*, каб апраўдаць сябе: *Амаральнасць у чалавеку з’яўляецца рэзультатам адсутнасці сугучча паміж яго жаданнямі і магчымасцямі здзейсніць іх*. Дыскусіі з духам начэпліўца (так ён называе таго другога, што жыве ў ім) сведчаць пра неспакой у душы героя: *Забіваеш сябе дзеля здабывання грошай... Павер, гэта гідка прысвячаць свае дні здабыванню банкнотаў... Дрыжыш перад начальствам.* Такія папрокі выклікаюць крыўду, дух супраціўлення: *Няпраўда, што я бегаю на работу ў дырэкцыі дзеля адных грошай... Працую я дзеля таго, каб быць лепшым за іншых!* Такіх спрэчак, унутраных маналогаў, што пераратаюць у дыялогі, у творы вельмі многа. Аўтар выварочвае ўсё, што накапілася ў душы героя, раскрывае яго характар не столькі праз учынкі, дзеянне, колькі праз думкі, развагі, спрэчкі.

Пачатак аповесці, бы ў дэтэктывах, — неспадзяваны арышт героя, зняволенне, падазрэнне ў злачынстве. Падзея, якая ў многім змяніла жыццё Андрэя Антошкі, падказаўшы, што ў гэтым свеце няма нічога сталага, надзейнага, раз і назаўсёды ўладкаванага. Пісьменнік вельмі дакладна апісвае літаральна кожны момант таго цёмнага зімовага ранку: усё, што бачыць герой, што чуе, што думае. Вось прыпыняецца машына, з яе выходзяць яшчэ не вядомыя яму асобы і цені іх знікаюць у цемры. Яны, тыя, хто па той бок закону, той закон быццам захоўваюць, ахоўваюць грамадства ад злачынцаў, сеючы злачынствы. Насамрэч яны людзі цемры, яе ахоўнікі і стваральнікі. Паспеў нават забыцца пра іх, бо зніклі з вачэй, бо галава баліць і ад прастуды, і ад прыкрай штодзённасці, ад замкнутага кола існавання. З першай старонкі аўтар уводзіць нас у сны героя, страхатлівыя, блытаныя, няпэўныя, якія паўтараюцца, у якіх герой трапляе ў нейкую хату, дзе адпачывае душою і якое няма ў рэальным жыцці. Усё пераблыталася. Але гэта ягоны свет, ён неяк дае сабе рады тут. Ды вось сюды ўваходзяць, урываюцца, увальваюцца чужыя, цені з цемры. Не толькі ў кватэру, жыццёвую прастору чалавека, але ў ягонае жыццё, каб змяніць яго, каб зразумеў, што існаванне не мае надзейнага грунту, што ўсё можа абваліцца ў кожны момант, што, сёння вольны, заўтра чалавек можа апынуцца за кратамі. Паводзяць сябе як гаспадары жыцця, нахабна, цынічна: *Званок быў чужы, доўгі, па-службоваму беспардонны*, заходзяць, *не просячы дазволу*, ступаюць *крокам, які не ведае ваганняў*. Прыходзяць з цемры („З іх абсыпалася ноч”) і выводзяць героя ў цемру. Гэта настолькі недарэчна, што Андрэю становіцца смешна, хоць спачатку, і гэта натуральна, ён спалохаўся. Праўдзівы тэатр абсурду, карнавал, нейкая незразумелая гульня:

Неабавязкова трэба нешта ўкрасці, каб прыйшлі па цябе і арыштавалі. Зусім неабавязкова, — думаў ён. — Даволі таго, што ты патрэбны для нейкай іх лагічнай версіі або, сам, не ўсведамляючы таго, ступіў на тое няўдачнае поле шахматнай дошкі, на якой яны зараз з некім гуляюць. Трэба будзе пагуляць: канец жа карнавалу!

Гэта яму толькі падаецца, што канец. Неаднойчы яшчэ давядзецца сустрэцца з гэтай сістэмай, з яе супрацоўнікамі.

Плынь роздуму героя ўвесьчасна перарываецца ўспамінамі. Памяць вяртае яго да родных мясцін, блізкіх людзей. Адразу па вызваленні, бяздумна блукаючы па вуліцах горада, Андрэй згадвае бацьку, ягоную раптоўную смерць. Разважае пра смерць наогул, яе адрозненне ў горадзе і ў вёсцы:

Людзі ў горадзе паміраюць сарамліва, за заслонкаю, каб іншым не перашкаджаць бегаць, размнажаць справы... Не тое, што ў вёсцы: паміранне — як свята смерці, як абрад, напамінанне ўсім, што яна ёсць, справядлівая і няўмольная, урачыстая...

Пачуццё віны перад бацькам, з якім так і не паспеў шчыра пагутарыць, жыве ў душы героя, вярэдзіць яе, выклікае раптоўныя слёзы. Дзеці, што сталі выпадковымі сведкамі такога стану дарослага чалавека, напачатку прымаюць яго за п’яніцу. А ён плача па страчаным незваротна, па тым, што спазніўся, не зрабіў вельмі важнага:

„Паміж імі ніколі не дайшло да размовы аб узаемных пачуццях. Андрэй чакаў, пакуль яе пачне бацька. А бацька... Не пакідала думка, што бацька мае да яго шмат жалю. І з гэтым ён адышоў. І няма ў свеце такой сілы, якую мог бы Андрэй прасіць, каб падаравала яму тую хвілю, якая пакінула б у бацькі шчаслівасць і гонар за роднага сына! Хвіліну так жаданай размовы. Толькі хвіліну. Толькі, каб сказаць: Люблю цябе, бацька мой! Так мала і, адначасова, так многа!

Такіх, да болю, да слёз кранальных момантаў у творы нямала. Яны наводзяць на думку пра мізэрнасць, марнасць спраў, якім штодня надаецца столькі ўвагі. Узнікае адчуванне, што жыццё траціцца на нікчэмнае, няважнае, а галоўнае заўважаецца, разумеецца чалавекам вельмі позна. Аповесць моцная сваім філасофскім падтэкстам, роздумам над вечнымі пытаннямі.

Як і героі Гарэцкага, Андрэй Антошка выношвае задуму ехаць дадому, да маці, каб ратавацца ад пустэчы, шэрасці, безвыходнасці. Маці для яго не проста родны, блізкі чалавек, а суразмоўца, з якім можна падзяліцца самым патаемным. Ён і дзеліцца. Унутраныя маналогі-лісты, якія піша герой, уражваюць глыбінёй разумення жыцця, чалавечых стасункаў, тым, як умее ён рацыянальна, бы даследчык-навуковец, псіхолаг, расставіць усё на свае месцы, раскласці па паліцах, класіфікаваць. І ўсё гэта з такім іранічным падтэкстам, быццам ставіцца дыягназ безнадзейна хвораму грамадству, калі выправіць нічога немагчыма, можна толькі ратавацца смехам:

Клінічным станам хвараблівых адносін паміж людзьмі, маці, з’яўляюцца службовыя размовы. У іх, папраўдзе, усё роўна, хто і што скажа: пытаючаму наогул усё ясна, адказваючаму — няма выбару (гэта дурны думае, што гаворыць згодна са сваёй воляй)... Такія размовы, службовыя, можна прыраўняць да гнілога зуба: як ні хітры — ды вырваць яго трэба!

Бяда ў тым, што толькі ў думках герой здольны так размаўляць з маці. Вось ён ужо дома, у Крынках. Сакрат Яновіч, відавочна, невыпадкова, выкарыстоўвае назву роднага мястэчка, тым самым падкрэсліваючы блізкасць да свайго героя, праз якога перадае асабістыя погляды. Вось побач маці, да якой ірваўся, якой столькі ўсяго выказаў. У думках. У рэальнасці ж бяседа бяжыць імкліва, без роздуму, бо пра звычайнае, будзённае,

працяг ☞

пустое. А калі яе ход павяртаецца да важнага, дзе трэба быць шчырым, калі размова павінна быць сардэчнай, яна адразу абрываецца, буксуе, сэрца быццам закрываецца на засланку. Андрэй звыкла схаваўся ў сваю шкарлупіну, бы слімак, што хавае ўсё сваё, калі нават небяспекі няма. Рвецца ён сюды, дзе *паветра маладое, лёгкае*, дзе цягне *на ўзмежак, каб прыпыніцца ў гурбах весялосці — сіняй, жоўтай, барвовай; сесці ды схіліць галаву да зямлі, каб прыглядзецца да колераў радасці*. Але быццам нехта нябачны перакрыў магчымасць тым паветрам дыхаць, весяліцца, радавацца. Таму і не супакоілася дома душа, герой вяртаецца ў горад з той жа трывогай, незадаволенасцю.

Герой аповесці адзінокі. Гэта як наканаванасць, якая прынята ім, якая стала звыклай. Хоць ён здольны на глыбокае пачуццё, на праўдзівае ўзвышэнне жанчыны, у якой умее бачыць Боскую красу. Такім было каханне Андрэя да Кіры: *Пакахаў яе, як паднябесную недасягальнасць. Воблік каханай знаходзіў у абліччы Божай Маці, на іконе, што сціпла вісела ў Пакроўскай царкве. Боскасць — гэта захапленне чалавекам!* Так, узнёсла, паэтычна, здольны герой успрымаць зусім незнаёмую дзяўчыну, маляваць у думках чыстымі, светлымі фарбамі яе партрэт. У празаічным тэксце чытаем праўдзівы верш:

Зрок Андрэя, пакінуты, схаваўся пад яе бровы белыя, выбеленыя сонцам, што над стрэхамі жытнёвымі. Душа Андрэя вярнулася з пыльнага бяскраю, прыпынілася над вачамі дзяўчыны, над валошкамі ў ніве, гэтымі асколкамі блакіту, калі жніво ўселася ўжо па першых пагорках. Валасы яе серабрыліся хвалямі спелых гоняў. А губы, набрынялыя дабром, былі са спакою. Словы — з цішыні ранкаў росных, садоў квітнеючых, крыніц чыстых-чысцюткіх, некранутых...

Наогул, як слушна адзначае літаратуразнаўца Алена Белая, *для літаратуры XX стагоддзя характэрны агульны працэс лірызацыі аповеду. Мастацкае, пераважна паэтычнае, светаўспрыманне аўтара непасрэдна праецыруецца на апавядальніка, а часта і на героя, робячы яго творчай асобай з такім жа, яскрава выяўленым, паэтычным успрыманнем рэчаіснасці*. Як бачым, і параўнанні, якімі атуляе прыгажуню, адтуль, з роднага, вясковага, прыроднага свету. Так кахае, так успрымае жанчыну той у Андрэю Антошку, хто наследуе спадчыну герояў Максіма Гарэцкага. Але праз колькі часу ў ім ажывае самасуй, кплівы, жорсткі, цынічны ў развагах пра кабету, у стаўленні да яе: *Да жанчын мы прыглядаемся тады, калі можна працягнуць па іх рукі, або нам здаецца, што такія шанцы існуюць*. А ўжо атрымаўшы пасаду, ён цешыць сваё самалюбства ўладай над жанчынай: *Прыемна, што вось стаіць перад ім, Андрэем Антошкам, яна, ужо залежная ад яго, чалавек і адначасна красуня*. Ягоны немалы досвед адносін з жанчынамі дапамагае маляваць далёка не цнатлівыя сцэны, распрананне жаночага цела вачыма становіцца звыклай справай. Пажадлівыя, нахабныя позіркі знішчаюць свята ва ўспрыняцці жаночае прыгажосці.

Але вяртаемся да таго Андрэя Антошкі, які не страціў у сабе паэта. Сакрат Яновіч уводзіць у тэкст лірычны абразок, які можна назваць „Валошка". Нагадаем, што між знакамітых Яновічавых мініяцюр ёсць абразок з такою назваю. Тут ён шмат гаворыць пра не сапсаваную яшчэ душу героя, ягонае сыноўняе, пяшчотнае стаўленне да родных гоняў, уменне выхапіць між чужых палеткаў тое, што ўзварухне душу згадкай пра сваё. Дыялог з краскай — гэта размова з блізкай, роднай асобай, што поўніцца настальгіяй, нязводным сумам:

Валошачка, ты аж тут?! Чаму ж гэта ты ўцякла з Піражкоўскіх палеткаў? Дрэнна адчуваеш сябе на чужыне: і неба тут не такое, і дажджы не пахучыя, і самота твая нікім не прыкмечана. Адна ты, зусім адна... А валошка Андрэю: Скажы, голубе, якія кроплі расы ў Піражкоўскім заполлі? Ці ўсё яшчэ такія самыя? Сняцца яны мне. А ці вятры гэтак жа гойсаюць па гонях? Я, ведаеш, кахала вецер ад Зялёнага луга. Моцна кахала яго! Калі будзеш, голубе, там, дык не забудзь прывітаць яго ад мяне. Прывітаеш? Скажы яму, калі б пытаў, што я памятаю яго... Або не, нічога не кажы яму! Нашто сум прывозіць? Не трэба. Бывай, голубе. Бывай...

Так лірычна перададзены аўтарам сум па страчанай Радзіме і каханні, пакінутым у далёкім мінулым.

Наогул, прачытанае калісьці героем пакідае ў памяці след, каб часам выплысці на паверхню, вывесці з шэрае штодзённасці ў іншы свет, хай прывідны, але такі прывабны. Гучаць яму ўлюбёнай музыкай паэтычныя радкі, вяртаючы да вытокаў:

Абярнуся я
галубіцай,
у акно тваё
буду біцца.
Прабягу каля ног дарогай —
у цябе іх наперадзе
многа.
Белым досвіткам,
сінім вечарам
Упаду
каля вербаў
рэчанькай.
Ціхай зоранькай
буду маліцца.
Не ікона я —
маладзіца.

Тое, што запалі ў душу менавіта гэтыя радкі, сведчыць пра ўменне вылучыць між прачытанага сапраўды вартае, падкрэслівае развіты эстэтычны густ героя.

Твор Сакрата Яновіча не абмежаваны адно рэаліямі Беласточчыны. Ён мае агульнабеларускі фон. Так, Андрэй Антошка чытае часопіс „Маладосць", літаратурная прастора наогул не зважае на дзяржаўныя межы. На іх не зважаюць сны, у якіх праводзяцца паралелі з мясцінамі, архітэктурнымі помнікамі з таго боку мяжы, калі, да прыкладу, герою мроіцца падабенства нейкага храма з Каложай.

Празаік не мог абысці такую жахлівую з'яву, як данос, што асабліва культывуецца ў несвабодным грамадстве. *Чаму гэта даносы пішуць пераважна былыя сябры?* — ставіць аўтар пытанне, якое не можа мець адказу. Бо і ворагі таксама даносяць. Гэтыя развагі знаходзім у дзённіку інжынера, які чытае Андрэй. Пісьменнік уводзіць дзённікавыя запісы, каб паказаць, як чалавек траціць надзею, траціць працу, становіцца нікому непатрэбным. Здольны перакрэсліць усе свае прынцыпы, чытаючы Дастаеўскага, прыходзіць да высновы, што *пакаранне існуе дзеля пакорлівасці. Трэба праявіць пакорлівасць!?* Не можа з гэтым пагадзіцца.

А вось ужо ён, Андрэй Антошка, фабрыкуе данос на свайго кіраўніка, хай часова, але займае ягоную пасаду, радуецца: *Вось табе, Андрэй, і ўлада: лёганькая, гожая, даўганогая каза. Гон яе адбыўся прасцютка да мяне, адно не зявай схапіць яе ды надзейна заціснуць*. Надзейна заціскае ён сваіх падначаленых, імкнучыся сцвердзіць іх залежнасць ад яго: *Неабходна, менавіта яму, паставіць некага ў непасрэдную залежнасць ад сябе і навідавоку ўсіх*. Улада разбэшчвае. Герой выглядае карыкатурай на кіраўніка. Але ягоныя паводзіны не смешаць: чалавек настолькі дэградуе, што не разумее, як траціць разважлівасць, выглядае недарэчным, страшным. Ён ужо гатовы да фізічнае расправы з падначаленымі: *Біў бы: удар у дыхавіну, потым — у карак! У дыхавіну, у карак...* Антошка вырастае да праўдзівага самадура з замашкамі дыктатара. Вось як ён пачынае нараду: *Прапаную наступны парадак: маё выступленне — і ніякіх пытанняў і адказаў, ніякай дыскусіі!* Выпрацоўвае цэлую схему паводзін дзеля таго, каб утрымацца ва ўладзе. Зразумела, што маральна-этычныя нормы адкінуты ім цалкам. Адзін з прынцыпаў наступны: *Першай праўдай усялякага кіруючага работніка з'яўляецца дбайнасць пра інтарэсы вышэйстаячых*. Даходзіць нават да таго, што імкнецца купіць прыхільнасць дырэктара падарункам. Не грэбуе ніякімі метадамі, сродкамі.

Але нягледзячы на ўсё гэта, знаходжанне на кіруючай пасадзе было нядоўгім і закончылася ганебна. Не толькі пераводам на нізкааплатную працу, не толькі канчатковай стратай надзеі на поспех у кар'еры, але і судом. Падавалася б, не падняцца яму, які страціў так многа, упаў так нізка, наперадзе ў яго мусіць быць поўная дэградацыя. Аднак, не. Страціўшы ўсё, Андрэй Антошка пазбаўляецца і страху. Ён ужо смела выказвае дырэктару, што думае, перастае рэагаваць на кпіны, абразы. Не жадае прыніжацца, прасіць. Вырашае застацца на тым месцы, якое прапанавалі, каб не быць залежным ад ласкі кіраўніцтва: *Гэта вялікая справа — не заставацца нікому ўдзячным. Як першая ўмова годнаснага жыцця!* У чалавеку прачнулася пачуццё годнасці. Ён яшчэ не знайшоў сябе, яшчэ не ведае, што будзе далей, але ўжо перастаў баяцца. Пачынае аналізаваць сваё становішча і прыходзіць да высновы: *Жыву з няясным адчуваннем недахопу нечага самага важнага*. Узнікае неадольнае жаданне вярнуцца дахаты. Не проста на адпачынак, а назаўсёды. Каб знайсці там тое нешта важнае. Ізноў бясконцыя размовы з маці, спрэчкі. Уяўныя, якія вядзе герой, бо добра ведае, што скажа маці. Ведае, што ягонае жаданне яна не прыме: *Не вяртайся ў вёску, чаго ў ёй шукаць? Прыедзеш сюды, дык адразу скажуць: валачыўся па свеце, валачыўся — ні з чым прывалокся на тое, што бацька гаротнай працай здабыў*. Паўстае мноства пытанняў, яны вярэдзяць душу героя: *Калі вёска — гэта наша глеба, дык чаму так рэдка сыплецца ў яе тое зерне, якое яна ж вырасціла?* Літаральна на ўсе пытанні паўстаюць адказы. Гэта вынашанае і самім аўтарам. Кідаюць вёску не толькі таму, што тут шмат цяжкай фізічнай працы, не толькі таму, што ўмовы жыцця ў гарадзе значна лепшыя, а таму, што не маюць нечага больш значнага, чаго не далі ім бацькі: *Пачуцця гонару за сябе, за свой род. Яны — без гісторыі!*

Пісьменнік вельмі многа сказаў гэтым творам. І як ён разумее шчасце, у тым ліку. Толькі перанёсшы гора, можна *глыбей адчуць шчасце*. Думкі пра шчасце не пакідаюць Андрэя. Пазней уяўляе ён дыялог з сынам, якога пакуль няма, які адказвае бацьку цытатай: *Шчасце заключаецца ў няведанні... Той, хто глыбока ведае, перастае быць шчаслівым*. Але і гэта не зусім тое, што хоча зразумець, адчуць герой. У фінале твора гэтая шчаслівасць урэшце прыходзіць. Дома, у роднай вёсцы, у бацькавай хаце, добра напрацаваўшыся, падсілкаваўшыся, наспяваўшыся родных песень, гледзячы ў заплаканы (таксама ад шчасця) твар маці, *Андрэй дакрануўся да сапраўднага сэнсу існавання чалавека — да пачуццяў шчаслівасці! Таго пачуцця, якое дагэтуль моцна не вырысоўвалася... Гэта шчаслівасць не мела дакладнай назвы, але яна ўжо была*.

Пейзаж у творы адпавядае псіхалагічнаму стану героя. Звычайна гэта змрок, непагадзь, якая здольна пераўтварыцца ў жывую істоту: *Пагода валацужылася па задворках, шмыгала паміж дрэвамі, калюжылася*.

Цікавы вобраз, створаны Сакратам Яновічам, — аўтобусы маладосці. Гэты вобраз таксама праходзіць пэўную эвалюцыю. У юнацтве, калі герой поўніўся надзеяй знайсці свой шлях, дасягнуць вышынь у жыцці, калі меў чыстую, не забруджаную двурушніцтвам, даносамі, паклёпамі і інтрыгамі душу, даволі было ўвайсці ў той тралейбус, каб апынуцца нібы ў святыні. Яркае асвятленне, мітусня па-нядзельнаму апранутых дзяўчат і хлопцаў, іх паказная ветлівасць, незямны арамат ад матора (так, арамат!), шэпты, спадзяванне нечага незвычайнага — усё гэта прыводзіла на ўспамін калядную ноч у перапоўненай царкве, куды хадзілі, каб перажыць нештодзённае, абтрэсці з сябе попел нецікавасці да свету.

Але свята не бывае доўгім. Захопленасць таксама. Ападаюць пялёсткі кветкі, намаляванай маладым уяўленнем пра будучае. Наступае працверажэнне. Праз колькі часу тыя ж людзі, у тых жа аўтобусах, але ўжо зусім іншыя, і па-іншаму паводзяць сябе:

Потым пра тую ўрачыстознасць аўтобусаў да таго ж забылі, што праціскаліся да ўвахода з гоманам ад беспардоння, абвешаныя бакатымі пакункамі бацькоўскіх харчоў. Прадаўгаваты сіні кузаў пахістваўся, бы выратавальны кацер, што вывозіць — рэшту ўцалелых у нечуванай катастрофе — на хлебны кантынент, у белакаменную выгоду ды сытасць.

Катастрофа — гэта смерць вёскі, традыцыйнай культуры. А яшчэ і смерць беларушчыны на гэтых землях. Незваротны працэс. І несуцяшальная, жорсткая выснова: *Аўтобусы Андрэевай маладосці былі аўтобусамі ўцёкаў*.

Кампазіцыйнай неўладкаванасці твора спрыяе пэўная хаатычнасць, калі асобныя эпізоды, здарэнні, сустрэчы, падавалася б, ніяк не звязаныя з іншымі. Але гэта толькі на першы погляд. Сюжэтная лінія ніяк не здольна набраць разгону, увесьчасна збочвае, тармозіць, робіць развароты, каб рухацца ў іншым накірунку. Бо менавіта так рухаецца герой. Такая арганізацыя твора адпавядае жыццёваму хаосу, усе эпізоды так ці інакш уваходзяць у свядомасць героя, падкрэсліваюць пустэчу ў ягонай душы, сведчаць пра жыццёвую неўладкаванасць, страту ідэалаў маладосці, кахання. Канфлікт у аповесці падвоены: між асобай і грамадствам і ўнутраны: між сумленнасцю і крывадушнасцю. Гэты твор — прысуд грамадству, якое жыве па законах хлусні, па беззаконню, дзе культывуецца двурушніцтва. Недарэмна аўтар часта праводзіць паралелі са светам жывёл: *Пасля нарады ўсе пакідалі кабінет тлумна, як тыя авечкі, што, напалоханыя сабакам, выбягаюць з загарадкі*. А гэта ж пасля нарады, якую праводзіць ён, Андрэй Антошка, што часова заняў месца кіраўніка. Гэта ён выступае ў незайздроснай ролі сабакі. Нялюдскі, звярыны свет напаўняе падсвядомасць героя, што выяўляецца ў снах: *Андрэй, абкружаны ваўкамі, узлазіў на дрэва, чапляўся за галіны, злятаў уніз і, пакуль упаў, пакудлачаны ваўчыска заціснуў зубялі на яго горле, а блішчачымі вачмі прастраміў душу*. Высокае дрэва — гэта і ёсць улада, за якую ён трымаецца, да якой імкнецца з усіх сіл. Сон аказаўся прарочым: неўзабаве ён будзе акружаны праўдзівай воўчай зграяй і адкінуты на ўзбочыну.

І ўрэшце, у самым фінале аповесці, калі герой перажыў вельмі шмат, ён ізноў згадвае тыя аўтобусы маладосці. Навошта? Ізноў гучыць матыў вяртання да вытокаў, да сябе. Андрэй Антошка збіраецца пачаць сяўбу на ніве свайго жыцця. Ужо па-новаму: стварыць сям'ю, нарадзіць сына, дачку. Недарэмна апошняя фраза твора, укладзеная ў ягоныя вусны: *Мы ж самасеі*. Гэтыя словы абнадзейваюць, надаюць аптымізму. Нягледзячы на страты, прыніжэнні, ён жыве, думае пра будучае. Герой выклікае да сябе неадназначнае стаўленне, у ім вельмі шмат таго, што не можа пакінуць абыякавым, што часта захапляе. Напрыканцы працытуем даследаванне Яна Чыквіна, той урывак, дзе сканцэнтравана мо самае галоўнае, што ўяўляе сабою герой аповесці:

Мне даспадобы беларускія сінякі на душы гэтага літаратурнага героя — душы як бы няпоўнай і дробязнай, неспакойнай, блізу падзення, і даспадобы жывое шуганне ў ім неўтаймаванага жыцця, прасветленыя, лірычныя думкі аб людзях і іх свеце.

❖ Альжбета КЕДА

1 ☞ працяг

# Гайнаўскі і Бельскі белліцэі сярод лепшых ліцэяў у Польшчы

дайшлі толькі дзве вучаніцы. Адна з іх стала лаўрэаткай, а другая фіналісткай. У Гайнаўскім белліцэі быў адзін лаўрэат і ажно 10 фіналістаў беларускай алімпіяды і гэта мела ўздзеянне на горшыя вынікі нашага ліцэя ў нядаўна апублікаваным рэйтынгу. У гэтым годзе больш нашых вучняў прыступіла да Алімпіяды па беларускай мове, але пабачым, які атрымаецца рэзультат, — заявіў дырэктар Сцепанюк.

Другое месца ў Алімпіядзе па беларускай мове ў 2017 годзе заняла Вераніка Кардзюкевіч, а фіналісткай стала Іаанна Кобус — абедзве вучаніцы Бельскага белліцэя.

— Я люблю вучыцца беларускай мове. Перамагала я ў прадметных конкурсах па беларускай мове падчас вучобы ў гімназіі і ў пачатковай школе і рада, што стала лаўрэаткай Алімпіяды па беларускай мове, — сказала Вераніка Кардзюкевіч. Ёй важныя родная мова і беларускі фальклор, з якім выступае ў Студыі фальклору «Жэмэрва».

Да ўдзелу ў алімпіядзе Вераніку Кардзюкевіч і Іаанну Кобус падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Анна Бжазоўская. Бельскаму белліцэю ў плане Агульнапольскага алімпійскага рэйтынгу моцна заслужыліся таксама лаўрэатка Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў Караліна Шэшка і фіналісты Мацей Боцюк, Ніка Паўлючук, Вераніка Нічыпарук і Уршуля Паўлючук, якіх да алімпіяды падрыхтавала настаўніца праваслаўнай рэлігіі Эва Астапковіч. За асаблівыя поспехі ў вучобе стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства на 2018 год атрымала Караліна Шэшка.

Данель Цеслюк стаў фіналістам першага выпуску Алімпіяды ведаў аб бяспечнасці і абараназдольнасці. Яго апякун настаўнік гісторыі ў Бельскім белліцэі Уладзімір Вавульскі выявіў задавальненне ад поспеху свайго вучня. Ніка Юрчук, якую рыхтавала настаўніца расійскай і беларускай моў Аліцыя Нідэ, стала ў мінулым школьным годзе фіналісткай Алімпіяды расійскай мовы. У 2017 годзе атрымлівала яна мастацкую стыпендыю маршалка Падляшскага ваяводства, між іншым за ўдзел у Студыі фальклору «Жэмэрва» ў Студзіводах, дзе спявае, танцуе і іграе на скрыпцы. Гаўрыіл Нікалаюк здабыў званне фіналіста Падляшскай біялагічнай алімпіяды, а Юлiянна Падолец стала фіналісткай Алімпіяды экалагічных ведаў.



■ Стыпендыятка маршалка Падляшскага ваяводства Магдалена Маліш з Бельскага белліцэя

Абодвух вучняў да алімпіяд рыхтавала настаўніца біялогіі Ірэна Траянчук. Стыпендыі маршалка Падляшскага ваяводства для мастацка здольных вучняў на 2018 год атрымалі вучаніцы Бельскага белліцэя Магдалена Маліш і Вераніка Нічыпарук, таксама фіналістка Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў.

— Я атрымала стыпендыю маршалка за мае поспехі ў галіне музыкі і дэкламацыі. Выступаючы з Міхалам Зіноўчыкам у калектыве «Пэрцэпцыя» ў 2016 годзе я атрымала ўзнагароду Бельскай каалiцыі і ўзнагароду ад публікі «Бардаўскай восені», а ў час апошняга выпуску гэтага фестывалю выступіла я ў гала-канцэрце. Спяваю я ў школьным калектыве «Спадчына», цікаўлюся тэатрам, займала прызавыя месцы на беларускіх дэкламатарскіх конкурсах «Сцэнічнае слова» і «Роднае слова», а таксама падчас іншых дэкламатарскіх конкурсаў, — сказала Магдалена Маліш.

❖ Аляксей МАРОЗ




http://sakatala.by

Беларусы заўсёды любілі выпіць. Праўда, у старыя часы той, хто многа піў, мала што меў. Таму, нягледзячы на даволі багаты выбар алкагольных напояў, беларусы да іх ставіліся спакойна. Прычым значна спакайней, чым пасля прыходу савецкай улады. Апошняя зрабіла культ нібыта прыгнечанага шляхтай і памешчыкамі лайдака, знішчыўшы моцнага гаспадара. Бліжэй да скону Савецкага Саюза такіх пітушчых лайдакоў развялося столькі, што камуністычная партыя і савецкі ўрад пачалі ўсенародную барацьбу з п'янствам. Барацьба гэта вялася з уласцівай камуністам і іх цяперашнім ідэйным нашчадкам бальшавіцкай дурасцю — на поўдні вырубалі вінаграднікі, а па цэлай савецкай краіне прапагандаваліся безалкагольныя вяселлі. Ці былі ў Беларусі безалкагольныя памінкі, аўтару гэтых радкоў невядома, але вядома, што безалкагольныя вяселлі толькі так называліся, бо хапала расповедаў, як разлівалі гарэлку патаемна пад сталом, а пустыя кілішкі хавалі ў кішэню.

У беларускага народа, а дакладней у нелайдацкай, а значыць, большай яго часткі, заўсёды існавала культура піцця. Пра тое, што пілі нашы продкі, не хаваючы, як іх нашчадкі, кілішкі, распавядае кніга „Сакатала бочачка", сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://sakatala.by.** Уласна кніга выйшла з друку напрыканцы 2017 года.

„Сакатала бочачка" — найлепшы даведнік па гісторыі самых знакавых алкагольных напояў Беларусі. У большасці выпадкаў яны былі цалкам забытыя ў XX стагоддзі. Аўтар праз руплівае вывучэнне пісьмовых і візуальных крыніц імкнецца вярнуць забытыя традыцыі нашых высакародных продкаў. Перад вамі — багата ілюстраванае і насычанае невядомымі фактамі выданне, надзейная крыніца ведаў і вобразаў пра такія напоі як старка і крупнік, дубняк і зуброўка, піва марцовае і віно шумлівае", — распавядаецца на сайце і дадаецца, прычым без якой-кольвечы спасылкі на нейкае даследаванне, што такой кнігі яшчэ не было.

„Сакатала бочачка", згодна з інфармацыяй на сайце, была выдадзена мінскім „Выдавецтвам Янушкевіча". А яе аўтарам з'яўляецца „гісторык кулінарнай справы кухмістр Верашчака". «Кухмістр Верашчака — літаратурны псеўданім вядомага гісторыка і публіцыста Алеся Белага. Доктар гуманітарных навук па гісторыі (Ph.D.). Аўтар кніг „Наша страва", „Літвінская кухня", „Хроніка Белай Русі: нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы", больш за 100 нарысаў па гісторыі беларускіх страў і напояў. Лаўрэат прэміі беларускага ПЭН-цэнтра імя Францішка Багушэвіча (2001), прэміі Міжнароднага кангрэсу даследчыкаў Беларусі (2014). Гаспадар аграсядзібы „Марцінова Гусь"», — прадстаўляе сайт аўтара выдання.

Паводле размешчаных звестак аб кнізе, у ёй распавядаецца пра піва і мёд пітны, віно, моцныя напоі. Праўда, нават з нейкімі адрыўкамі кнігі на сайце пазнаёміцца немагчыма, бо там іх папросту няма. Уладальнікі сайта прапануюць прачытаць фрагменты яе, даслаўшы ім свой нумар тэлефона і адрас электроннай пошты. Падаецца, што гэта не самы лепшы маркетынгавы ход, бо не вельмі зацікаўлены наведвальнік сайта можа не захацець зрабіць такія, хоць і не складаныя, але высілкі. Таму, магчыма, лепей гэтыя фрагменты было б пабачыць менавіта на сайце.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## Падзеі і асобы БНР

### 29 студзеня — дзень нараджэння

# Антона Луцкевіча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, старшыня ўрада БНР Антон Луцкевіч нарадзіўся 29 студзеня 1884 г. у Шаўлях (Шаўляй, Літва). Паходзіў са шляхецкага роду гербу „Навіна". Брат Івана Луцкевіча. Біяграфія Антона Луцкевіча добра даследавана, хоць абставіны ягонай смерці доўга былі невядомыя.

У 1902 г. Антон скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, юрыдычным Дэрпцкага ўніверсітэта. Адзін з заснавальнікаў БРГ у 1903 г. Арыштаваны ў Мінску ў 1904 г. за распаўсюд партыйнай літаратуры, пазбаўлены правa пакідаць горад. У лютым 1906 г. перайшоў на нелегальнае становішча, пераехаў у Вільню. Уваходзіў у склад рэдакцый газет „Наша доля" і „Наша ніва". Першы артыкул апублікаваў у 1906 г. Супрацоўнічаў з Беларускім выдавецкім таварыствам.

Пасля акупацыі Вільні ў 1915 г. немцамі ўзначаліў Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Адзін з выдаўцоў газеты „Гоман". У 1915 г. з братам, паэтэсай Цёткай і іншымі заснаваў Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу, узначаліў Беларускі народны камітэт (БНК). Адзін з ініцыятараў Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага. У 1916 г. БНК ухваліў яго канцэпцыю Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. выказваўся за ўваход у склад будучай беларуска-літоўскай дзяржавы ўсіх беларускіх зямель, за наданне дзяржаўнага статусу ўсім мясцовым мовам. На Беларускай канферэнцыі ў 1918 г. абраны старшынёй Віленскай беларускай рады. Кааптаваны ад ВБР у склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, быў ініцыятарам абвяшчэння незалежнасці БНР. Пасля расколу БСГ адзін са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У верасні 1918 г. прызначаны Радай БНР старшынёй Народнага сакратарыята і народным сакратаром замежных спраў (з кастрычніка 1918 г. старшыня Рады народных міністраў і міністр замежных спраў БНР).

З снежня 1918 г. Рада і ўрад БНР на чале з Луцкевічам пераехалі ў Вільню, 27 снежня — у Гародню. Луцкевіч накіроўваў ноты пратэсту польскаму ўраду супраць далучэння да Польшчы Беластоцкага, Бельскага і Аўгустоўскага паветаў. У канцы сакавіка 1919 г. перад пагрозай польскага паглынання Гарадзеншчыны і Віленшчыны выехаў у Берлін. Дамагаўся, каб прадстаўнікі БНР узялі ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі. Па запрашэнні міністра-прэзідэнта Польшчы І. Падарэўскага выехаў з Парыжа ў Варшаву, дзе ў пачатку верасня 1919 г. інтэрнаваны. 1.12.1919 г. вярнуўся ў Мінск. Пасля расколу Рады БНР 13.12.1919 г. — старшыня Рады міністраў Найвышэйшай рады БНР.

Не знайшоўшы паразумення з Польшчай, падаў у адстаўку і выехаў у Вільню. Там аднавіў выданне „Нашай нівы". У ліпені-жніўні 1920 г. зняволены бальшавікамі. З 1921 г. старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. У ліпені 1921 г. заснаваў Беларускую школьную раду. Стварыў Беларускі музей імя І. Луцкевіча. У 1922 г. узначаліў у Вільні Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт. Пасля ўтварэння ў 1925 г. Беларускай сялянска-работніцкай грамады працаваў у яе рэдакцыйным камітэце. Арыштаваны польскімі ўладамі ў кастрычніку 1927 г., абвінавачаны ў супрацоўніцтве з нямецкай і савецкай разведкамі, апраўданы судом. У 1928 г. арыштаваны яшчэ раз, зноў апраўданы. У 1931 г. звольнены з працы ў Віленскай беларускай гімназіі. Пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі яго запрасілі на сход беларускай інтэлігенцыі. У верасні 1939 г. арыштаваны бальшавікамі ў Вільні і перавезены ў Мінск. Асобай нарадай НКВД СССР прыгавораны да 8 гадоў канцлагераў. Памёр 23.03.1942 г. у саратаўскай вязніцы НКВД. Пахаваны ў спецсектары камунальных магілак у горадзе Аткарск саратаўскай вобласці.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Што новы год прынясе Орлі

Можна з вялікай верагоднасцю меркаваць пра гэта. Як у жыцці — могуць здарацца станоўчыя факты, і адмоўныя. Агульна прадбачваю наступнае ў надыходзячых месяцах:

У канцы студзеня або ў пачатку лютага пакажацца друкам мая кніга-альбом „Orla. Historie prawdziwe. Cz. I: Odchodzący świat profesji i pasji mieszkańców Orli i okolic”. Будзе ў ёй звыш двухсот старонак, а на іх каля 250 здымкаў. Некалькі сотак асоб, спадзяюся, захоча такі альбом мець. Гэта таксама прамоцыя маёй малой айчыны. Кніга ўнікальная, якой да гэтай пары ніхто не напісаў і не напіша.

Рознымі па значнасці стануць дзеянні самакіравання ў карысць гміны:

— 30 мая закончыцца разбудова і перабудова ачышчальні сцёкаў у Орлі па вуліцы Сянкевіча. Гэта дарагая і неабходная інвестыцыя.

— 29 чэрвеня новай вясковай святліцай будуць маглі цешыцца і карыстацца жыхары Спічкоў.

— У пачатку верасня ў Орлі традыцыйны беларускі фэст „Арлянскія сустрэчы”. Магчыма, што сёлета адбудзецца запар з урачыстым адкрыццём новага будынка Гміннага цэнтра культуры, завяршэнне будовы якога запланавана на палову верасня. Новы будынак у цэнтры мястэчка з кожным днём набліжаецца да завяршальнага выгляду, а велічынёй парытэтны з будынкам Гміннай управы ці сінагогі.

— З канцом лістапада мае быць завершана пабудова гульнявых пляцовак з трэнажорнымі міні-ўстаноўкамі ў Малінніках, Міклашах і Вульцы-Выганоўскай. Гэта будуць месцы актыўнага адпачынку, што напэўна ўзбуйніць турыстычна-рэкрэацыйную вабнасць Арлянскай гміны.

— Восень павінна ўзрадаваць футбалістаў і балельшчыкаў — тады мае быць здадзены ў карыстанне спартыўны аб’ект у Кашалях.

— У снежні 2017 года Гмінная рада прыняла Праграму апекі над бяздомнай звярынай на тэрыторыі Арлянскай гміны, паводле якой мае быць рэалізавана стэрылізацыя лішняй звярыны. Гміна запэўніць дафінансаванне стэрылізацыі або лягчання да паловы коштаў. На рэалізацыю задачы адведзена квота ў дзве тысячы злотаў.

— Адбываюцца змены гандлёвых паслуг. Паявілася крама „Аргелан”. Дагэтуль у Орлі былі тры крамы і зараз столькі ж. Пакупнікі сталі часцей заходзіць у „Аргелан”, хаця цэны там большыя чым у Бельску. У дзвюх сямейных крамах пакупнікоў паменшала, але яны працвітаюць. З багацейшымі ніхто не выйграў, таму пачуцці ў мясцовым грамадстве мінорныя.

— Восень прынясе крыху хвалянняў. Адбудуцца самаўрадавыя выбары, тэрмін вырасце з чатырох да пяці гадоў. Войтам, верагодна, астанецца той самы добры гаспадар, памяняюцца некаторыя радныя.

— І найсумнейшае ды непазбежнае: цягам кожнага года назаўсёды адыходзіць некалькі дзясяткаў асоб. Гміна дэмаграфічна згортваецца, паволі напльываюць маладыя людзі, якія, аднак, не асімілююцца з мясцовымі. Цікавае таксама тое, што ў самой Орлі ёсць дамы і пляцы прапанаваныя для продажу, аднак значнай зацікаўленасці імі не відаць.

Адно астаецца нязменным — з кожным годам становімся старэйшымі і мудрэйшымі.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Прыгожыя гвязды





20 студзеня гэтага года ў Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі выстаўку гвяздаў. Упершыню ладзілі яе нараўчанскі Гмінны асяродак культуры (ГАК) і галерэя. Дагэтуль ніколі такой экспазіцыі ў галерэі яшчэ не было.

Выстаўку адкрыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. Пра гвязды і традыцыю калядавання ў наваколлі Нараўкі распавяла Кацярына Бяляўская, інструктарка ГАК. Паінфармавала яна, што прыгожыя гвязды-радугі (радугай у нас называюць вясёлку) рабілі жыхары Семяноўкі, Семенякоўшчыны (Мядзвядзёў) і Баб’яй Гары. Гвязды-двухрадкі і гвязды з фанарамі па двух баках і над гвяздай выконвалі калядоўшчыкі з Ахрымоў, Старога Ляўкова і Лешукоў. Усе гвязды былі з прыгожымі пушыстымі быццам з воўны або з льнянога пакулля кутасамі на кожным з рагоў. Гвязды мелі пяць, шэсць, сем або восем рагоў. Так як ліцо гвязды, так і рогі ўпрыгожвалі. На ліцо з празрыстай каляровай паперы часта давалі, між іншым, іконку з выявай Божай Маці з Дзіцяткам на руках. На рагах наклейвалі маленькіх анёлкаў або разнаколерныя зоркі.

Пасля агляду гвяздаў арганізатары запрасілі ўсіх прысутных на салодкі пачастунак, між іншым, на смачны пірог, шакаладныя цукеркі. Была таксама кава, гарбата і смачнае віно г.зв. сваёй работы. Пачаліся ўспаміны, як калісьці калядавалі і як праводзілі г. зв. Багаты вечар (Шчодры вечар). Цікавыя былі расказы Кацярыны Бяляўскай, Анны Стульгіс, Валянціны Панькоўскай, Мікалая Павільча, Паўла Каліноўскага і Віталя Скепкі перш-наперш пра фокусы, якія маладыя людзі рабілі вечарам перад Новым годам у беларускіх вёсках.

Выстаўка гвяздаў у галерэі будзе працаваць яшчэ і ў лютым гэтага года.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# ЗАПРАШЭННЕ




# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** паўднёвае пладовае дрэва, у якім... лыч = 4 _ 31 _ 20 _ 34 _ 8 _;

**2.** антонім поўначы = 1 _ 12 _ 24 _ 25 _ 26 _ 27 _ 28 _ 29 _;

**3.** прылада з наразнымі знакамі для адціскання іх на пасвядчальным дакуменце = 30 _ 6 _ 19 _ 23 _ 36 _ 37 _;

**4.** незвычайная падзея = 21 _ 10 _ 7 _;

**5.** чханне ў... краўчыхі = 13 _ 14 _ 9 _;

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | | | | |
| | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | 23 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

**6.** страва з кавалачкаў бараніны нанізаных на металічны стрыжань = 33 _ 2 _ 18 _ 5 _ 35 _ 3 _;

**7.** ранішняя царкоўная служба = 32 _ 15 _ 16 _ 17 _ 11 _ 22 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Язык, Дэга, серп, ёлка, ацёк, ліха, ям, водар, хлюпат, сабатаж, сто, спіраль, нацiск.

Рашэнне: **Слёзы — гэта ціхая мова болю і радасці**.

# 04.02 — 10.02

**(22.03. — 20.04.)** Шмат добрых сюрпрызаў і прыемных навін. У рабочай сферы трэба больш працаваць, а ў каханні праявіць пяшчоту і рамантыку. Не адмаўляйся ад камандзіровак і знаёмстваў з дзелавымі людзьмі. Будзь эмацыйна стрыманым, не прынось негатыў у дом. Паглядзі на сітуацыю па-філасофску. Збірай станоўчую энергію, займайся творчасцю, знайдзі захапленне па інтарэсах. Можаш пайсці вучыцца па нейкай арыгінальнай спецыяльнасці.

**(21.04. — 21.05.)** Будзе гарэць зялёнае святло ва ўсіх напрамках. Станеш больш разняволеным, адкрытым і кантактным, з’явяцца новыя знаёмыя, сябры, узыхальнікі, якія напоўняць жыццё сэнсам, зробяць яго ярчэйшым і цікавым. Шчасце ўсміхнецца, а Фартуна павернецца тварам. Стане лёгка і проста, усё стане на свае месцы, вырашацца праблемы. Прыцягнеш да цябе цікавых асоб, якія дапамогуць рэалізаваць планы і ажыццявіць ідэі.

**(22.05. — 22.06.)** Крыху напружана, бо толькі пачнеш адаптавацца да зададзенага жыццём рытму. Можа табе здацца, што ты не ў сілах справіцца з назапашанымі справамі, але не ўсё так змрочна. Усё нашмат прасцей, а праблем і спраў як такіх і зусім няма. Не марнуй сваю энергію на непатрэбныя эмоцыі і перажыванні. Зірні на сітуацыю з боку, цвяроза ацані абставіны і магчымасці. Не бойся папрасіць дапамогі і парады.

**(23.06. — 23.07.)** Будзе перыяд выпрабаванняў, але, сабраўшы ўсе сілы і сканцэнтраваўшы ўвагу на прыярытэтных справах, удасца шчасліва пераадолець усе выпрабаванні і перашкоды, умацаваць упэўненасць ва ўласных сілах і натхніцца на будучыя здзяйсненні. Не стаў перад сабой занадта высокую планку або нерэальныя мэты., Прыслухоўвайся да парад і думак больш дасведчаных і мудрых людзей. Зараз не самы зручны час для кардынальных змен. Умацоўвай дасягнутыя раней пазіцыі, паляпшай адносіны з роднымі і сябрамі ды з каханым чалавекам.

**(24.07. — 23.08.)** Нямала прыемных момантаў. Зможаш рэалізаваць вялікую частку задуманага. Чакае поспех у калектыве і грамадстве. Будуць цябе паважаць і на цябе раўняцца. Найбольшага поспеху даб’ешся ў сферы грамадскай дзейнасці ў якасці ініцыятара і арганізатара. Лёгка збярэш публіку, займееш падтрымку аднадумцаў і прапагандуеш свой светапогляд. Не варта быць занадта катэгарычным. Паступленне выгадных прапаноў па працы і бізнесе. Зможаш істотна ўмацаваць свае фінансавыя пазіцыі і палепшыць якасць жыцця.

**(24.08. — 23.09.)** Рэалізуй свае кароткатэрміновыя планы і зрабі першыя сур’ёзныя крокі да ажыццяўлення сваіх мэт. Цалкам будзеш адданы сваёй працы. Ва ўсіх сферах жыцця гармонія і паразуменне. Дома атрымаеш чарговую падзарадку пазітыўнай энергетыкі. Заробіш на сваіх прамоўніцкіх талентах, гэтая здольнасць мае больш за ўсё шанцаў стаць шчаслівым квітком у светлую будучыню.

**(24.09. — 23.10.)** Час поўны сустрэч, знаёмстваў і зносін. Спрыяльна ва ўзаемаадносінах з навакольным светам. Новыя сябры і знаёмыя. Не варта хаваць свае сапраўдныя пачуцці, шчырасць і ўсмешка — гэта ўжо палова поспеху. Нескладана будзе весці актыўнае грамадскае жыццё і прымаць непасрэдны ўдзел у яго арганізацыі. Але не перад усімі адкрывай душу. Будзь разважлівы і цвярозы, сачы за мовай, за ходам сваіх думак.

**(24.10. — 22.11.)** Сканцэнтруй свае сілы і ўвагу, старайся быць праніклівым і трымаць сітуацыю пад кантролем. Не чакай імгненных вынікаў ад сваіх новых праектаў, бо расчараванні не абмінуць. Набярыся цярпення і рабі тое, што задумаў. Ты на правільным шляху. Няхай першы час давядзецца адмаўляць сабе ў элементарных чалавечых дабротах, такіх як адпачынак, забавы і нармальны здаровы сон, затое ўжо да канца месяца зможаш убачыць першыя станоўчыя вынікі. Выразна прытрымлівайся свайго плана. Ад непрыкметных і няважных дробязей будзе залежаць далейшае развіццё падзей. Збярыся з думкамі і заставайся верным сваім прынцыпам і перакананням.

**(23.11. — 22.12.)** Не на жарт праявяцца твае працавітасць, упартасць і мэтанакіраванасць. Не страшныя будуць ніякія цяжкасці і перашкоды. Выразна ўбачыш сваю мэту і ўпарта ідзі ёй насустрач. Але не варта ісці напралом. Навучыся абыходзіць перашкоды, каб не марнаваць дарэмна сілы і энергіі на выхадкі лёсу, які правярае цябе на трываласць, у цябе ёсць справы больш важныя.

**(23.12. — 20.01.)** Увесь люты шанцаванне. Зможаш паспяхова рэалізаваць свае планы і задумы, увасобіць ідэі ў жыццё, ажыццявіць сваю мару. Але будзь гатовы таксама да непрадказальных паваротаў лёсу. Апорай можа стаць і блізкі сябар, і родны чалавек. Умацуй адносіны з надзейнымі і блізкімі людзьмі. Прыемны і радасны час. Прыцягнеш увагу з боку прадстаўнікоў супрацьлеглага полу. Можаш уладкаваць сваё асабістае жыццё або дамагчыся ўзаемнасці..

**(21.01. — 19.02.)** Ціхае і мернае жыццё, смела можаш плыць па плыні ўвесь люты і ні пра што не турбавацца. Прама зараз можаш адправіцца на пошукі прыгод, запісвайся на курсы візажу, масажу, барменскага мастацтва... Будуць эмоцыі, пра якія марыш. Да фінансавых пытанняў неабходна паставіцца з максімальнай сур’ёзнасцю. Матывацыяй павінны стаць фінансы, зарабіць якія можа кожны. Варта ператварыць хобі ў крыніцу дадатковага заробку.

**(20.02. — 21.03.)** Будзь рашучым, рэалізуй усё, што задумана. З’явяцца выдатныя магчымасці вырашыць матэрыяльныя, фінансавыя ці жыллёвыя пытанні. Невычэрпны паток энергіі і сіл, упэўненасць і мужнасць, усе жыццёвыя задачы і пытанні не будуць складанымі. Канчай усе свае пачатыя раней справы і прыступай да новых. Адчуеш глыбокае і шчырае пачуццё кахання. Прынесеная любоўю натхненне і сілу накіруеш у бок самаўдасканалення і самарэалізацыі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



Скульптуры на каталіцкіх могілках

# Васількаў

Паўгода таму задумалася мне прайсціся па цяперашняй Кнышынскай, а раней Букштальскай пушчы, спадзяючыся пры нагодзе знайсці крышку высыпаўшыхся тады баравічкоў. Злез я з цягніка на прыпынку Чорны Блок, што чарговы за прыпынкам Васількаў. Зараз за тым лясным прыпынкам раскіданы дарожна-чыгуначны пераезд. І побач паведамленне беластоцкай Управы чыгуначнага транспарту пра ліквідацыю пераезду, паколькі лясная дарога не была аб'яўлена мясцовым самаўрадам публічнай. Калісь, можа, такія дэкларацыі не былі патрэбныя, але ў сённяшні час усеагульнага нарміравання і для чыгуначнага пераезда патрэбная паперка дзеля яго існавання, быццам нейкая загсаўская метрыка...

Направіўся я тады ў бок Васількава, але са спадзяванага грыбнога плёну не ўдалося мне знайсці нават адзінага грыбчыка, хаця ў той час грыбнікі маглі ўжо хваліцца немалымі трафеямі. Але ж „нядзельны" грыбнік не раўня штодзённаму будняму, а і не ўсе пушчанскія лапікі аднолькава ўраджайныя. Пры нагодзе пацікавіўся я і іншым уловам. Вось менавіта ў тамашнім наваколлі цякуць дзве рачулкі, у якіх надта загадкавыя жаночыя назвы: адна з іх ахрышчана Бартошыхай, другая — Юрчыхай. Яны выводзяцца, значыць гэтыя жаночыя мянушкі, ад мужчынскіх імён Барташа і Юрыя. Імя Барташ часта ўжываецца ў Польшчы — гэта, паводле біблейскіх даследчыкаў, імяніннік евангельскага апостала Нафанаіла. Імя Юры таксама папулярнае ў Польшчы, але хіба не менш і на Усходзе. Вось такім чынам і гідранімія размяжоўвае, ці злучае, тут, у нас, Усход з Захадам...

*Геаграфічны слоўнік Калеўства Польскага*: „O 8 wiorst od Wasilkowa na północ znajduje się prześliczna puszcza buksztelska, słynna z wyborowego gatunku drzewa, przeważnie dębu i sosny i obfitości zwierzyny. W niej dawnemi czasy polowali często królowie polscy i w. ks. litewscy; dotychczas przechowuje się tradycya między osadnikami tej puszczy o owych polowaniach. A była to puszcza obszerna, albowiem do dziś dnia, łącznie z przyległemi kryńskiemi lasami, zawiera około 60,000 dziesięcin towarowego lasu. Uroczysko, na którem założone zostało miasto, oddawna nosiło nazwę Wasilkowa i leżało w ziemi Jadźwingów. Podług ogólnego mniemania w okolicach W. zaszła d. 13 października 1282 r. bitwa pomiędzy Leszkiem Czarnym, a w ks. litew. Trojdenem, w której Polacy odnieśli zwycięztwo nad Litwinami i połączonymi z nimi Jadźwingami. W bitwie tej Jadźwingowie po raz ostatni występują na widowni dziejowej...".

Лясная дарога, якая паводле чыгуначнікаў не надта публічная, аднак вельмі выгадная для прагулачных мэт. Ёю толькі зрэдчас праедзе нейкая лясная легкавушка, а пешаход можа бестурботна любавацьсвае зрок, слых і нюх багаццем пушчанскай прыроды. Перад Васількавам паказваюцца велізарныя металічныя крыжы. Яны ўзведзены, мабыць у парыве нейкай паказной патрэбы — каля крынічкі, якая спакон вякоў займела назву Святой Вады; тут жа менавіта Усход сутыкаецца з Захадам і трэба гучназрочна заявіць пра сваю цывілізацыйную страсць. І падалося мне, што гэты гігантаманскі комплекс з'яўляецца не так знакам набожнасці, чым фігавым лістком, прыкрываючым менавіта той паказушны вектар цывілізацыйнай страсці...

Дарэчы, ініцыятарам такой сумніўнай задумы трэба лічыць ксяндза Вацлава Рабчэўскага. Аднак ёсць і іншы паказны элемент ягонай дзейнасці — гэта шэраг скульптур на васількаўскіх каталіцкіх могілках. Яны нясуць пэўную звышчасовую рэфлексію, як жа адлеглую ад таго вельмі сумніўнага пасылу, які прадстаўляе аголеная з прыроднага антуражу „Гара крыжоў"...

Калі мова пра васількаўскія каталіцкія могілкі — зайшоў я туды глянуць на магілу знаёмых, пахаваных там амаль дваццаць гадоў таму. Помнілася мне, што хавалі іх каля могілкавай агароджы. Ледзь знайшоў — цяпер тая магіла каля дваццаці метраў ад паркана. Могілкі — не мёртвыя, яны таксама растуць, як усё ў прыродзе; здавалася б... І на праваслаўныя могілкі зайшоў, бо там неспадзявана пахавалі маю даўнюю суседку, якая, таксама неспадзявана, загінула вясной у пажары свайго дома ў Гайнаўцы...



Каплічка і крыж у Навадворцах

Амаль сорак гадоў таму Мікола Гайдук быў пісаў: „Заедзьце хоць бы ў мястэчка Васількаў — і першы сустрэчны васількавец на пытанне, што яму вядома пра паўстанне яго роднай мясцовасці, ахвотна раскажа вам паданне пра двух братоў. Як гэта бывае ў легендах, пачуеце вы, што адзін брат быў дабратлівы, а другі — хцівы. Жылі яны так, пажывалі колькі часу, ажно той хцівы брат пачаў пазіраць прагнымі вачыма на багацце свайго дабратлівага брата. Запрасіў яго да сябе ў гасціну, замкнуў яго ў цямніцу ды слугам сваім загадаў яго там асляпіць. Потым, аслепленага, з двара свайго выгнаў, а ўсю братаву маёмасць сабе прыдбаў. І пайшоў сляпы дабратлівы брат па свеце, жабруючы і на свой лёс наракаючы. Хадзіў ён так доўга ці коратка, аж трапіў у нейкую пушчанскую гушчэчу. Думаў ён, што настаў ужо канец яго гаротнаму бадзянню, калі не ў пашчы дзікага звера, то ў дрыгвістай топелі. Але ж, паўзучы так ракам, наткнуўся ён рукамі на нейкі ручаёк са сцюдзёнаю вадою. Пачаў у ім абмываць пакалечаныя і загвэдзганыя свае рукі. Калі ж пырснуў у твар — раптам у сляпых вачах яму неяк паяснела, пырснуў другі — забалавела, быццам на досвітку; пырснуў трэці — слепату тую як рукой зняло. Нацешыўшыся ўволю красою бачанага свету, выздаравеўшы дабратлівы брат не падаўся далёка ад цудадзейнага ручайка, які назваў Святою Вадою. Пасяліўся тут паблізу і стаў жыць ды пажываць у шчасці і здароўі аж да самай смерці. Называўся ён Васілька і ад гэтага імя займеў сваю назву цяперашні Васількаў...".

А цяпер, у зімовую пару, таксама рашыў я падацца ў Васількаў, але з іншага боку, з боку Агароднічак. Дарога з Агароднічак у Навадворцы перасякае абрыс новай шашы, што мае спалучыць Беласток з Супраслю; яна абмінае Агароднічкі, у якіх вуліца надта цесная. А далей, у Красным, пастаўлены ўжо апоры пад эстакаду, па якой новая дарога пранясецца над „краснай" рачулкай Піўніцай.

Я кіруюся ў вёску Навадворцы, якая сваім вобрубам ахінае Беласток з паўночна-ўсходняга боку. Шмат тут катэджаў, якія агульным чынам нагадваюць колішнія сялянскія панадворкі. Агульным, бо ж цяпер на тых панадворках няма хлявоў, толькі ў катэджах бывае і па два адсекі для сучасных „коней", значыць легкавушак. Каб падацца, для прыкладу, у Беласток, не трэба запрагаць каня, цяпер хопіць крунуць ключыкам і заміж за лейцы ўхапіцца за баранку...

У цэнтры даўніх Навадворцаў незвычайная асаблівасць — пажарніцкі музей. Тут каля дзясятка машын з пээнэраўскай эпохі. Перад пажарніцкім комплексам валун у гонар Мацея Ратая, маршалка міжваеннага Сейма. *Вікіпедыя*: „1 czerwca 1921 minister wyznań II RP Maciej Rataj podpisał reskrypt o „przywróceniu" 19 tymczasowych parafii prawosławnych, który de facto zmniejszył liczbę parafii z 69. istniejących przed wojną na obszarze tzw. trzech powiatów przyłączonych (bielskiego, białostockiego i sokólskiego). Majątki zamykanych parafii przejmował Skarb Państwa, który mógł je następnie przekazać Kościołowi katolickiemu. Państwo polskie chciało w ten sposób wykorzystać fakt exodusu większości prawosławnych mieszkańców Podlasia w głąb Rosji w 1915 do celów polonizacyjnych. Powrót znacznej ilości z nich w 1922 zadecydował, iż ostatecznie dokument nie wszedł w życie". Складана меркаваць, чаму менавіта Мацей Ратай так ушанаваны ў Навадворцах; магчыма таму, што тут сутыкаюцца Усход з Захадам... І на тым жа бугарку, на якім згаданы валун, сімвалы Усходу і Захаду — каталіцкая каплічка і праваслаўны крыж...

Яшчэ раз пра Васількаў *Слоўнік Каралеўства Польскага*: „W 1807 r. było tu 212 dm. i 677 mk., przeważnie żydów; w 1860 r., 201 dm. i 1,381 mk. (65 prawosł., 817 katol., 19 ewang. i 480 żydów). Posiada cerkiew paraf. murowaną, świeżo wzniesioną (1,531 parafian), uposażoną 96 dzies. (56 roli i pod zabud., 32 łąk i pastw., 8 nieuż.), kościół katol. dawniej parafialny, 2 domy modlitwy żydowskie, zarząd okręgu policyjnego dla 4 gmin powiatu i oddzielnego dla miasta, przędzalnią i apreturę (firmy J. Kaminke) o 3 tamburach i 1,860 wrzecionach, 386 rzemieślników (267 majstrów, 89 robotników, 30 uczniów), w tej liczbie 253 tkaczy (173 majstrów, 50 robotników, 30 uczniów). W 1860 r. była tu fabryka sukna, produkująca za 21,200 r[ubli]s[rebrem]. i dwie nieznaczne garbarnie". Васількаў тады быў у Сакольскім павеце. І яшчэ раз: „Pierwszym plebanem był ks. Mikołaj Komarowski, któremu wydzielono na utrzymanie 15 włók gruntu. Po nim objął tę plebanię ks. Gabryel Grzymała, który, nieprzestając na tych włókach, w czasie bytności Zygmunta III w Grodnie podał prośbę o powiększenie funduszu, kładąc między innemi i tę przyczynę, że staw królewski zalewa część pola do plebanii należącego. Król zaraz wysłał list do starosty Łukasza Górnickiego, zalecając żeby wejrzał w położenie i jeżeli pleban niedostatek cierpi, bądź dziesięciną z folwarku, bądź czemby rozumiał opatrzył. Ale, że parafianie nie bardzo byli łaskawi na plebana za to, że kiedy oni własnym kosztem przenieśli kościół na inne miejsce, blisko rynku, gdzie na kupionym placu i plebanię przestawili, ks. Grzymała przywłaszczył to miejsce gdzie dawniej stał kościół, nie pozwalając go na wygon obracać, grabił i spędzał ich bydło; ztąd kłótnie były częste. Kiedy starosta od króla przysłany zjechał i wypytywał mieszczan o fundusz księdza, ci jednozgodnie dowodzili, że pleban dosyć ma chleba, że staw królewski niewiele mu szkodzi: skończyło się na tem, starosta kazał dawać księdzu na wosk i wino po 4 złote co rok ze skrzynki miejskiej, a piąty złoty z folwarku wasilkowskiego".

Лукаш Гурніцкі быў найзнакамітшай асобай, звязанай з Васількавам. Калі, вядома, не лічыць валынскага князя Васілька менавіта, ад якога, магчыма, і пайшла назва мясцовасці.

Яшчэ раз Мікола Гайдук: „Да нашых дзён захаваўся пацверджаны канцылярыяй караля польскага Аўгуста III у 1753 г. пераклад, зроблены яшчэ ў канцылярыі караля Яна Казіміра, са старабеларускай мовы на старапольскую мову надта каштоўнага дакумента. Гэтым дакументам-граматай кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст у 1566 годзе прызнаваў магдэбургскае права з усімі звычаямі яго гораду Васількаву, каб тым спосабам тое места Васількаў размножыцца, расшырыцца і пасадавіцца магло...".

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960